КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 29 (301) ◂ 20 ліпеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ЗІНАІДА ЦІМОШАК

Стар. 6

## ПРАВА НА АБОРТ

Непажаданыя цяжарнасці, хацелася б каму ці не, былі, ёсць і будуць. Але забарона на аборты не вырашае праблему, а заганяе яе ў цень

Стар. 5

## НІ СЯРПА, НІ МОЛАТА

Парламент Малдовы прыняў пастанову, якая асуджае камуністычнае мінулае краіны і забараняе выкарыстанне ў палітычных мэтах сімволікі СССР. Пра прычыны такога рашэння і яго наступствы для краіны журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з малдаўскім палітолагам Алегам Сеняевым

Стар. 11

## АДЫСЕЯ АРКАДЗЯ НАФРАНОВІЧА

Стар. 14

ISSN 2218-2144

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!

ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ ВАЧАМІ САЦЫЁЛАГА

Артыкул Сяргея Нікалюка

▸ З НАГОДЫ




# КАБ БАЯЛІСЯ

Вольга ХВОІН

**Сілавікі знайшлі крайняга ва ўласных промахах у ахове паветранай прасторы дзяржавы. Да адказу за мядзведжы дэсант шведскай кампаніі «Studio Total» і дзіркі ў паветранай прасторы Беларусі хочуць прыцягнуць 20-гадовага студэнта Антона Сурапіна.**

Пры тым, што факт незаконнага перасячэння мяжы настойліва адмаўляюць прадстаўнікі ўзброеных сілаў Беларусі. А камісія прэзідэнта праводзіць праверку ўсіх злучэнняў і воінскіх часцей Ваенна-паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны.

20-гадовы студэнт Інстытута журналістыкі БДУ размясціў на сваім сайце Belarusian News Photos фатаграфіі плюшавых мядзведзяў, скінутых 4 ліпеня са шведскага самалёта над Івянцом і Мінскам. Затрымалі яго 13 ліпеня. У дачыненні да Антона заведзеная крымінальная справа, ён падазраецца ў дапамозе ў незаконным перасячэнні мяжы. Сурапіну пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі. Да 23 ліпеня яму мусіць быць прад'яўлена абвінавачванне. Фатограф сцвярджае, што здымкі плюшавых медзведзянят яму даслаў па электроннай пошце невядомы чалавек.

Арганізатары акцыі размясцілі ў інтэрнэце поўны відэазапіс свайго палёту над Беларуссю, выступілі з заявамі пра тое, што пры падрыхтоўцы да акцыі яны ні з кім не кантактавалі з прадстаўнікоў Беларусі. Пасля арышту Сурапіна арганізатары «плюшавага дэсанта», прадстаўнікі піяр-кампаніі «Studio Total», заявілі, што малады фатограф не мае дачынення акцыі, а яны гатовыя адказаць на ўсе пытанні беларускіх следчых, калі тыя прыедуць у Швецыю.

Гісторыя з Антонам Сурапіным ускалыхнула журналісцкую супольнасць — не тое, каб беларускія працаўнікі СМІ не сутыкаліся раней з затрыманнямі, арыштамі і перашкодамі ў працы. Але гэты выпадак ёсць наўпраставым пераследам журналіста за яго прафесійную дзейнасць. Прэтэнзіі ў КДБ не да фармулёвак, тэкстаў, выказванняў, а да перадруку чужога фота (так сцвярджае Сурапін). Па логіцы сілавікоў, да адказнасці можна прыцягнуць кожнага, хто не тое што публікаваў матэрыялы па тэме, а хто іх нават чытаў!

У падтрымку Антона Сурапіна калегі вырашылі сфатаграфавацца з адным з мядзведзікаў, што спусціўся на беларускую зямлю на парашуце. Такім чынам журналісты выказваюць салідарнасць з Антонам, якога падазраюць у садзейнічанні незаконнаму перасячэнню мяжы, ды заклікаюць разбірацца з тымі, хто насамрэч вінаваты ў халатнасці па ахове межаў дзяржавы.

У падтрымку Антона выступіла і ўплывовая міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў». «Гэты трук шведскага агенцтва «Studio Total» не павінен выкарыстоўвацца беларускімі ўладамі як прычына арышту журналістаў, блогераў ці грамадзян, якія проста перадаюць інфармацыю пра гэта», — гаворыцца ў заяве арганізацыі.

Цікава, што прэс-аташэ арміі Літвы капітан Скомантас Павіленіс спачатку заявіў: «4 ліпеня літоўская армія зафіксавала парушэнне правілаў выкарыстання паветранай прасторы Літвы. У сувязі з гэтым праводзіцца расследаванне, высвятляюцца абставіны здарэння. Сказаць, ці звязана парушэнне правілаў са згаданым у СМІ інцыдэнтам, мы не можам». Праз некалькі дзён міністр абароны Літвы Раса Юкнявічэне ў інтэрв'ю сайту charter97.org заявіла, што літоўскія вайскоўцы не зафіксавалі парушэнні літоўска-беларускай мяжы шведскім самалётам 4 ліпеня.

Літоўскі бок вырашыў не падліваць алею ў агонь ды замяць скандал, аналагічна маглі б зрабіць і беларускія сілавікі, бо ці варта з-за плюшавых мядзведзяў ламаць лёсы людзей? Але не, справу ў абарот узяло КДБ, пачало вышукваць крайніх — і знайшло ж. Апроч Антона Сурапіна быў затрыманы супрацоўнік агенцтва нерухомасці Сяргей Башарымаў, ён быццам бы мог здаваць на суткі кватэру шведам, якія курыравалі акцыю з зямлі.

Гэтыя арышты наўрад ці ёсць знакам для беларусаў, бо чым і як толькі не ўводзілі пачуццё страху ў падкорку суайчыннікаў цягам васямнаццаці гадоў. Гэта хутчэй сігнал замежнікам: зладзіце рызыкоўную акцыю ў падтрымку правоў і свабодаў у Беларусі, пацерпяць беларусы.

З кожным годам практыка закручвання гаек, нервовая рэакцыя ўладаў на, здавалася б, бяскрыўдныя праявы вальнадумства робяцца ўсё больш вострымі. Але паколькі гэта ідзе з нарастаннем, то беларусы прызвычаіліся жыць у такіх умовах. Ёсць, канешне, асобы, што не хочуць мірыцца з дзейным станам спраў і ідуць насуперак дзяржаўнай машыне, але іх пакуль адзінкі, як тых шведскіх пілотаў у беларускім небе.

Таму, на жаль, пакуль ратаванне тапельцаў адбываецца толькі рукамі тапельцаў. Народу мядзведзі і фатографы да лямпачкі.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# ЕС УСЁ ЯШЧЭ ВЕРЫЦЬ У БЕЛАРУСЬ

Вольга ХВОІН

**«Мы сочым за тым, што зараз адбываецца ў Беларусі, з вялікім расчараваннем», — заявіў еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфан Фюле 18 ліпеня на сустрэчы з групай беларускіх журналістаў у Брусэлі. Палітык зазначыў, што цяпер ЕС мае стратэгічнае бачанне развіцця адносінаў з Беларуссю.**

«Раней мы выказваліся вельмі зразумела, на якіх умовах можа змяніцца супрацоўніцтва ЕС і Беларусі ў пазітыўным кірунку. Гэта — вызваленне палітвязняў і іх рэабілітацыя, гэта значыць аднаўленне іх грамадзянскіх і палітычных правоў. Мы таксама ясна сказалі, што, калі не будзе ніякіх зрухаў па гэтым пытанні і будзе працягвацца наступ на дэмакратыю, то міністры замежных спраў гатовыя разгледзець дадатковыя меры», — падкрэсліў Фюле.

Ён таксама адзначыў, што Беларусь усё ж з'яўляецца еўрапейскай краінай, «нягледзячы на тое, што некаторыя палітыкі дзейнічаюць так, як быццам Беларусь знаходзіцца на іншым кантыненце або дзесьці далей на ўсход ад Расіі». Ён падкрэсліў, што ЕС па-ранейшаму зацікаўлены ў Беларусі і яе народзе. «І гэта самая галоўная прычына таго, чаму Беларусь застаецца ў рамках праграмы «Усходняе партнёрства», але, на жаль, у нас з Беларуссю няма такіх адносін, як з іншымі дзяржавамі — удзельніцамі праграмы, адсутнічае прававая база адносін», — сказаў Фюле.

Еўракамісар нагадаў, што ў Беларусі ёсць абавязацельствы па выкананню правоў і асноўных свабод грамадзян. «І гэта не толькі з нашага пункту гледжання, але і з пункту гледжання большасці міжнародных арганізацый. І Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе свабода слова і сходаў мае зусім іншае значэнне, чым у Еўропе», — адзначыў Фюле.

Гаворачы аб ініцыятыве ЕС «Дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю», Фюле падкрэсліў, што яна вельмі важная для Еўрасаюза. «Дыялог дазваляе нам у кантактах з грамадзянскай супольнасцю і апазіцыяй прадставіць поўную карціну таго, што можа быць часткай пазітыўнай еўрапейскай палітыкі, калі Беларусь стане дэмакратычнай краінай, дзе правы чалавека існуюць не толькі на паперы, але і выконваюцца ў рэальнасці», — сказаў ён.

Адказваючы на пытанне аб тым, наколькі змянілася палітыка і стратэгія ЕС у дачыненні да Беларусі, Фюле адзначыў: «Некалькі гадоў таму, калі мы верылі, што нават пры Лукашэнку можна дэмакратызаваць Беларусь, мы былі заўсёды на крок ззаду таго, што рабілі беларускія прадстаўнікі. Гэта была палітыка, якая толькі адказвала на пэўныя крокі, у нас адсутнічала стратэгічнае бачанне. Думаю, што цяпер гэта змянілася», — перадае словы еўракамісара БелаПАН.

Ён дадаў, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў назіраліся пазітыўныя зрухі ў адносінах паміж ЕС і Беларуссю, тады ж быў прапанаваны сумесны прамежкавы план, які ўтрымліваў канкрэтныя крокі Беларусі ў рамках руху да дэмакратыі і вызначаў, як Еўрасаюз будзе суправаджаць яе на гэтым шляху. «Першы раз у нас быў канкрэтны стратэгічны план, але ён быў замарожаны пасля 19 снежня», — канстатаваў Фюле і падкрэсліў, што патэнцыял і самыя цікавыя прапановы з гэтага дакумента выкарыстоўваліся пры падрыхтоўцы «Дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю».

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# «AMNESTY INTERNATIONAL» У ПАДТРЫМКУ ЗМІТРА ДАШКЕВІЧА

**«Amnesty International» выступіла з адмысловай заявай адносна крымінальнага пераследу моладзевага актывіста, лідара МФ і палітвязня Змітра Дашкевіча.**

«Беларускаму вязню сумлення Змітру Дашкевічу пагражае падаўжэнне тэрміну зняволення на адзін год за парушэнне рэжыму адбыцця пакарання. Большую частку свайго зняволення ён правёў у штрафным ізалятары», — гаворыцца ў заяве.

Лідар моладзевага апазіцыйнага руху «Малады фронт» Зміцер Дашкевіч адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі ў паўночна-заходнім горадзе Глыбокае, куды ён быў пераведзены 27 верасня 2011 года.

На гэтым тыдні «Amnesty International» даведалася, што адміністрацыя калоніі накіравала ягоную справу ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь. Следчы камітэт цяпер мусіць вырашыць, ці існуюць дастатковыя доказы, каб распачаць новую крымінальную справу супраць Змітра Дашкевіча па артыкуле 411 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы). Зміцер Дашкевіч, у сваю чаргу, накіраваў кіраўніку калоніі ліст, у якім заявіў, што ён свядома адмаўляецца выконваць пэўныя патрабаванні адміністрацыі калоніі, бо лічыць іх незаконнымі.

24 сакавіка 2011 года Зміцер Дашкевіч быў асуджаны да двух гадоў зняволення паводле артыкула 339 (хуліганства) па абвінавачванні ва ўжыванні гвалту напярэдадні выбараў, 18 снежня 2010 года. «Amnesty International» лічыць, што абвінавачванні супраць яго з'яўляюцца неабгрунтаванымі і што яны былі сфабрыкаваныя з мэтай перашкодзіць яму ўзяць удзел у дэманстрацыі 19 снежня 2010 года. З часу вынясення прысуду ў сакавіку 2011 года Змітра Дашкевіча восем разоў змяшчалі ў штрафны ізалятар, у выніку чаго ён правёў большую частку свайго зняволення ў карцары. У такіх камерах надзвычай жорсткія ўмовы ўтрымання: вязням не выдаецца бялізна, узімку тэмпература часам падае да 15 градусаў, і ім не дазволены перапіска і спатканні. У верасні Змітру Дашкевічу прапанавалі звярнуцца да прэзідэнта з прашэннем аб памілаванні, пры ўмове прызнання сваёй віны; аднак ён адмовіўся ад гэтай прапановы. Зміцер Дашкевіч лічыцца «злосным парушальнікам» турэмнага рэжыму, і яму забароненыя спатканні з сям'ёй. Падобна на тое, што няспынны пераслед Змітра Дашкевіча ў сувязі з парушэннямі рэжыму накіраваны на ўжыванне псіхалагічнага і фізічнага ціску супраць яго.

Калі ласка, неадкладна звяртайцеся з лістамі па-беларуску, па-руску або на Вашай роднай мове з мэтай:

- нагадаць беларускім уладам, што Зміцер Дашкевіч з'яўляецца вязнем сумлення, які знаходзіцца ў зняволенні выключна ў сувязі з мірным выказваннем сваіх правоў, і што ён мусіць быць неадкладна і безумоўна вызвалены;
- нагадаць беларускім уладам, што яны звязаны абавязальніцтвамі абараняць фізічную і псіхічную недатыкальнасць зняволеных;
- заклікаць беларускія ўлады спыніць пераслед Змітра Дашкевіча.

**Паводле spring96.org**

ВЫБАРЫ

# НЕ РЭГІСТРУЮЦЬ

**У Віцебскай вобласці ўлады адмаўляюцца рэгістраваць ініцыятыўныя групы па вылучэнню Мікалая Статкевіча кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.**

Па словах Аляксея Гаўруцікава, віцебскага аднапартыйца палітвязня, дакументы падавалі на рэгістрацыю, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да палітзняволеных. Камісія Віцебскай Кастрычніцкай акругі №20 адмовілася рэгістраваць ініцыятыўную групу па зборы подпісаў за вылучэнне Мікалая Статкевіча.

Назіральнік Анатоль Родзік, сябар партыі левых «Справядлівы свет», які прысутнічаў на пасяджэнні камісіі, распавёў: «Не зарэгістравалі групу Статкевіча, назваўшы цэлы шэраг парушэнняў. Па-першае, няправільна аформлена даверанасць ад імя Статкевіча. Па-другое, ён знаходзіцца ў турме №4 горада Магілёва, пра гэта ёсць даведка. Паводле Выбарчага кодэксу, у выбарах не маюць права ўдзельнічаць асуджаныя і зняволеныя, якія адбываюць тэрмін пакарання. Урэшце, у заяве на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы было пазначана, што яе арганізуюць для ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў 4-га склікання, а насамрэч — 5-га».

«Нумар склікання тут ні на што не ўплывае. Гэта смешна! І мы ўсе гэта разумеем. Увогуле, дакументы мусіць падаваць патэнцыйны ўдзельнік выбараў, але ж Мікалай Статкевіч не можа гэтага зрабіць! Людзі, вартыя таго, каб быць абранымі ў парламент, у нас сядзяць у турмах. І мы хочам прыцягнуць увагу да гэтай праблемы. Таму падаем заявы на рэгістрацыю ва ўсе 14 камісій Віцебшчыны», — сказаў Аляксей Гаўруцікаў.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

АКЦЫЯ

# САЛІДАРНАСЦЬ З УКРАІНЦАМІ

Алена БАРЭЛЬ

**17 ліпеня беларусы, што жывуць у Кіеве, узялі ўдзел у акцыі салідарнасці з украінцамі, якія пратэстуюць супраць надання рускай мове статусу другой дзяржаўнай.**

Ініцыятарам і арганізатарам акцыі выступіў Беларускі цэнтр ва Украіне. Як паведаміла прэс-група цэнтра ў запрашэнні да ўдзелу ў акцыі, беларусам цалкам зразумелыя падзеі, якія зараз адбываюцца вакол мовы ва Украіне, бо дыктатура ў Беларусі была ўсталяваная праз незаконнае прыняцце ў 1995 годзе статусу рускай мовы як другой дзяржаўнай. Гэта, па словах арганізатараў акцыі, дало магчымасць праводзіць палітыку этнацыду ў Беларусі і паставіць пад пагрозу існаванне беларускай мовы і беларускай нацыі.

«Мы, беларусы, якія знаходзяцца на тэрыторыі Украіны, не можам прамаўчаць і лічым сваім абавязкам публічна выказаць салідарнасць з Украінай», — гаворыцца ў паведамленні Беларускага цэнтра ва Украіне.

На акцыі выступілі актывісты беларускай апазіцыі Яраслаў Грышчэня, Андрэй Касмовіч, Галіна Саротнік і Юлія Шаўлоўская. Пасля кожнага выступу гучалі ўкраінскія і беларускія песні ў знак яднання дзвюх дзяржаў супраць імперскіх амбіцый Расіі.

Напрыканцы акцыі кіраўнік аргкамітэту абаронцаў украінскай мовы, якія трымаюць галадоўку каля Украінскага дома, Аксана Нежывенка падзякавала беларусам за падтрымку. Яе паплечніка і аднаго з галадоўнікоў — старшыню камітэта Пятра Шкуцяка — шпіталізавалі ў ноч на панядзелак, 16 ліпеня. Раней з-за пагаршэнні здароўя дапамога медыкаў спатрэбілася галадоўнікам Вользе Даўганюк, Ганне Юшчанка, Кацярыне Аўрамчук і Анатолю Пікулю.

Нагадаем, што 3 ліпеня большасць дэпутатаў Вярхоўнай Рады Украіны прагаласавала за прыняцце законапраекту №9073 «Пра асновы дзяржаўнай моўнай палітыкі». Прапанаваная моўная палітыка прадугледжвае ўсталяванне афіцыйнага выкарыстання рэгіянальных моваў у працы мясцовых органаў дзяржаўнай улады пры пражыванні мінімум 10 працэнтаў іх носьбітаў на тых ці іншых тэрыторыях Украіны. Такім чынам, руская мове ва Украіне фактычна надаецца статус другой дзяржаўнай. У выніку абураная грамадскасць распачала акцыю пратэсту каля Украінскага дому ў Кіеве, якая цягнецца да гэтага часу.

СУД

# ГАЛІЦКУЮ АДПРАВІЛІ НА СУТКІ

**Суд Маскоўскага раёна Мінска 18 ліпеня пакараў Касю Галіцкую 10 суткамі адміністратыўнага арышту.**

Адміністрацыйную справу (арт.17.1 КаАП РБ) разглядала суддзя Тацяна Мотыль. Сведкамі па справе, як звычайна, выступілі спецназаўцы Яўген Барадач і Зміцер Тарашкевіч.

Нагадаем, Кася прыйшла ў суд Кастрычніцкага раёна Мінска, каб падтрымаць сваіх сяброў, затрыманых 17 ліпеня «маладафронтаўцаў» Уладзіміра Яроменку і Рамана Васільева.

Іх абвінавацілі ў брыдкаслоўі. Нібыта ў 7.40 раніцы яны лаяліся матам на вуліцы Бабруйскай.

Праз некаторы час праваабаронцы паведамілі, што Кася Галіцкая таемным чынам знікла з памяшкання. Яе тэлефон не адказвае. Толькі праз некалькі гадзін праваабаронцам стала вядома, што яе затрымалі супрацоўнікі міліцыі нібыта за тое, што дзяўчына папросту ў судзе брыдкасловіла. Ноч Кася правяла ў пастарунку.

Дарэчы, суддзя Лапко пакарала Рамана Васільева арыштам на 12 сутак (сведкамі выступілі супрацоўнікі міліцыі Цюніс і Драздоў). Уладзіміру Яроменку далі 15 сутак.

**Паводле spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПРЫ ЧЫМ ТУТ МЯДЗВЕДЗЕЎ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нешта задорага сталі абыходзіцца нам візіты першых асобаў Расійскай Федэрацыі. Не ў матэрыяльным, канешне, плане, а ў чалавечым. Можа, сапраўды іх больш сюды не запрашаць? Шмат нерваў зэканомім, дый адносіны да самой Расіі ў нас будуць значна лепшымі.**



Ну, па-першае, не будуць перакрывацца дарогі. Па-другое, не будуць загружаныя суды. Па-трэцяе, міліцыя зоймецца сваёй справай. Кожны здольны дадаць сваё «па-чацвёртае» і «па-пятае».

Не паспела беларуская апазіцыя ачуняць ад візіту Пуціна, як гэтым разам яе «ашчасьлівіў» Мядзведзеў. Падчас прыезду Пуціна і напярэдадні яго прэвентыўныя затрыманні тычыліся ўсіх патэнцыйных «антырасійцаў». Патрапіла тады ў пастарункі Бог ведае колькі людзей, самыя «агрэсіўныя антырасійцы» атрымалі суткі адміністрацыйнага арышту, не паспеўшы нічога зрабіць. Нават нацыянал-бальшавікі таксама селі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў, што, дарэчы, не перашкодзіла іх калегам вывесіць на шляху Пуціна расцяжку з пасыланнем старага-новага расійскага прэзідэнта на тры літары.

Зараз прыляцеў Мядзведзеў. Ізноў напярэдадні — пасадкі. За два дні, 17 і 18 ліпеня, затрымана было каля дзясятка актывістаў. Месца нацболаў гэтым разам занялі эколагі са сваімі петыцыямі супраць будаўніцтва АЭС.

Ну і чаго дамагліся праваахоўныя органы? Замест адной петыцыі Мядзведзеў атрымаў дзве. Адну, як і планавалася, ад эколагаў. Даведаўшыся пра тое, што іх масава арыштоўваюць, каб яны не патрапілі да расійскага пасольства, экалагісты выслалі заяву па факсе. «Мы патрабуем адмяніць падпісанне генеральнага кантракта аб будаўніцтве беларускай АЭС. У выпадку невыканання нашага патрабавання мы пакідаем за сабой права інфармавання міжнародных структур, такіх, як ААН і МАГАТЭ, аб узгаданых парушэннях, а таксама права ініцыявання судовых разбораў, у тым ліку ў наднацыянальных структурах па фактах парушэнняў», — гаворыцца ў звароце.

Як вынік, судовыя разбіральніцтвы пойдуць у ААН не толькі па фактах парушэнняў пры будаўніцтве АЭС, а і па фактах парушэння правоў чалавека і адвольных затрыманняў. І калі б тое тычылася толькі АЭС, гэта была б адна справа. А вось затрыманні, зразумела, дадаюць негатыўнага фону самой АЭС. Нават у беларусаў можа ўзнікнуць пытанне: калі АЭС такая карысная, чаму з-за яе людзей саджаюць?

А вось як ААН выкліча ў межах гэтай справы сведкам Мядзведзева?

Тут яшчэ дадалі копаці сябры «Маладога фронту». І слушна дадалі — няма чаго затрымліваць перад прыездам Мядзведзева актывістаў. «У мінулы прыезд спадара Пуціна моладзевым актывістам давялося адседзець больш за 20 сутак у турме ў перыяд да ягонага знаходжання, падчас і нават пасля яго. У нас склалася ўражанне, што Вамі заахвочаны (маральна і фінансава) спадар Лукашэнка робіць усё, каб беларуская дэмакратычная супольнасць, мякка кажучы, была не рада Вашаму прыезду, і нават — адважымся Вам сказаць — пачынала крыху ненавідзець гэтыя візіты. Як бы ён зноў не стаў палохаць Вас другой Чачнёй, што ўжо мела месца быць у адносінах да вашай Саюзнай дзяржавы», — заяўляе МФ.

Арганізацыя нагадала Мядзведзеву, што пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў 2010 годзе ён выказаў занепакоенасць масавымі затрыманнямі і нематываванымі рэпрэсіямі з боку беларускіх улад. «Беларусы былі глыбока расчуленыя тады ўвагай з Вашага боку. Зараз жа парадокс заключаецца ў тым, што, самі таго не жадаючы, Вы сталі прычынай з'яўлення новых палітзняволеных», — цісне на сумленне Мядзведзева МФ.

«Просім Вас як чалавека прагрэсіўнага і цывілізаванага ўмяшацца ў сітуацыю і спрыяць вызваленню гэтых грамадзян, каб надалей не ствараць вакол сваіх прыездаў злавеснага арэолу бессэнсоўных затрыманняў, грукату дубінак і казематнай сырасці. Просім растлумачыць гэту сітуацыю ў гутарцы з кіраўніцтвам Беларусі і папрасіць яго не псаваць імідж кіраўнікоў Расійскай Федэрацыі ў нашай краіне», — падкрэслівае моладзь.

Сапраўды, моладзь слушна падкрэсліла. Аднойчы адседзеўшы «за Мядзведзева» ці «за Пуціна» ў турме, хто будзе іх любіць? Адседзеўшы двойчы, іх пачнуць ненавідзець. А ў трэці раз, калі заторы на дарогах узнікнуць з-за прыезду нейкай Матвіенкі ці Зюганава, яшчэ адным прыхільнікам стане больш у КХП — БНФ, якая ў кожным кроку бачыць «маскальска-імперскую змову кадэбістаў для вынішчэння беларускай нацыі».

З аднаго боку, менавіта да гэтага павінны імкнуцца сябры МФ. Але ж яны наадварот крычаць: «Хопіць дыскрэдытаваць Беларусь у вачах Мядзведзева!» Ну якому кіраўніку краіны будзе прыемна, калі з-за яго пасадзілі людзей, якія яму нічога не зрабілі, і якіх ні ён, ні яны яго ўвогуле не ведаюць.

Не, канешне, яны ведаюць, хто такі Мядзведзеў. Але я больш чым упэўнены, што да «пасадкі» ўсім актывістам «Маладога фронту» гэты візіт быў «да лямпачкі». У іх сваіх праблемаў хапае.

У дачыненні да лідара міжнароднай арганізацыі «Малады фронт» (Чэхія) Дзмітрыя Дашкевіча распачата новая крымінальная справа. Справа распачатая Глыбоцкім раённым аддзелам Следчага камітэта па матэрыялах праверкі, што паступілі з калоніі. Дашкевіч абвінавачваецца ў «злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі калоніі» (арт. 411 КК), яму пагражае яшчэ адзін год пазбаўлення волі.

У СК падкрэслілі, што падчас праверкі дакладна правяралася інфармацыя аб тым, ці былі з боку Дашкевіча факты адмовы ад выканання правілаў і абавязкаў, а таксама наколькі гэтыя адмовы былі абгрунтаваныя. Для праваахоўных органаў «не мае значэння, які статус меў асуджаны па-за месцамі пазбаўлення волі», дадаў прадстаўнік камітэта.

Затое гэта мае значэнне для сябраў МФ, праваабаронцаў і палітыкаў, якія зараз пачынаюць новую кампанію па абароне Дашкевіча. «Міжнародная амністыя» ўжо да яе далучылася.

Што цікава, дык тое, што пра новую крымінальную справу Дашкевіча абвясцілі па тэлебачанні ў дзень прыезду Мядзведзева. Здавалася б, пры чым тут Мядзведзеў?

Але ні пра аднаго палітвязня так не паведамлялася — у «прайм-тайм» па першым канале тэлебачання, прычым не пра суд, а проста пра распачацце справы (якая, магчыма, ляснецца за недаказанасцю). Пераважна, «палітычныя» не згадваюцца, нават па імёнах, нават калі ім вынесены жорсткія прысуды. А тут — такая ўвага. Увага да МФ, да Дашкевіча, да ўсяго. І ўсё гэта ніяк не звязана з Мядзведзевым? Нешта не верыцца.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ МАКАР



Афіцэр міліцыі з Гродна, брат былога байца спецпадраздзялення «Алмаз», папрасіў палітычнага прытулку ў Швецыі. Сяргей Макар праслужыў у АМАПе і аддзеле міліцыі 15 гадоў, але пасля выбарчай кампаніі 2006 года адчуў на сабе ціск з боку спецслужбаў.

«Мой брат Ігар служыў у «Алмазе». Ён адразу пасля выбараў быў вымушаны хавацца, каб ураваць сваё жыццё. Справа ў тым, што ён не выканаў загады міністра Наумава па кампраметацыі Аляксандра Казуліна як кандыдата на пасаду прэзідэнта», — распавёў Сяргей Макар журналісту «Народнай волі» пра матывы сваіх уцёкаў з краіны.

У 2006 годзе літоўскія дыпламаты вывезлі Ігара Макара з краіны. У 2011 годзе з-за ціску з боку спецслужбаў краіну пакінулі жонка Ігара Макара Вольга з сынам.

Сяргей Макар быў капітанам міліцыі Кастрычніцкага РАУС Гродна. Паводле яго слоў, супрацоўнікі КДБ патрабавалі ад яго выклікаць у краіну Ігара з любой нагоды. Сяргей адмовіўся, і на яго пачаўся ціск і праблемы на службе. Пасля гэтага Сяргей Макар распавёў прэсе аб спосабах і фактах фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, пасля чаго пакінуў Беларусь, заявіўшы, што вымушаны зрабіць гэта з меркаваннях асабістай бяспекі.

### ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА



Медыйнай персонай гэтага тыдня ёсць старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. «Невыязная» чыноўніца з'ездзіла ў Вену на канферэнцыю АБСЕ.

Лідзія Ярмошына распавяла, што персанальнага запрашэння ад АБСЕ не было, але было запрашэнне для краіны ўзяць удзел у канферэнцыі: «МЗС звярнуўся да нас з адпаведным лістом. Мы пазначылі мяне ў якасці прадстаўніка, а калі я не змагу, то — Лазавіка (сакратар ЦВК — рэд.). Праз некаторы час я атрымала з АБСЕ па электроннай пошце ліст ад тэхнічнага супрацоўніка, дырэктара праграм, дзе было напісана: «Спадарыня Ярмошына, вы зарэгістраваныя ў якасці ўдзельніка нарады. Гэты ліст з'яўляецца падставай для атрымання візы». Вось як гэта ўсё выглядала».

На канферэнцыі беларуская чыноўніца ўнесла прапанову, каб быў прыняты парадак аспрэчвання вынікаў заключэння назіральнікаў.

Раней Лідзія Ярмошына распавядала, што мае мару наведаць Парыж. З яе слоў вынікае, што і Венаю беларуская чыноўніца задаволеная.

«Вена паланіла маё сэрца — самы прыгожы горад, які я бачыла. Проста грандыёзны! …У мяне была магчымасць не добра папатпаць ножкамі. Жылі мы ў цэнтры, і была магчымасць шмат пахадзіць, што мы і рабілі штовечар. Было ўсё тое, што я люблю: шпацыраваць, прысаджвацца ў вулічных кавярні, піць кубачак кавы, глядзець на жыццё», — распавядала пра прыемнасці еўрапейскай камандзіроўкі Ярмошына. Таксама яна падзялілася, што ў краме Duty Free набыла парфуму «Light Blue» ад Dolce & Gabbana.

### ЭМАНУІЛ ЗЕЛЬЦЭР



Праз тры гады пасля вызвалення з беларускай турмы амерыканскі адвакат савецкага паходжання Эмануіл Зельцэр падаў іск у суд у Нью-Ёрка на канцэрн «Белнафтахім», патрабуючы пакрыцця шкоды ў памеры 70 мільёнаў долараў. Амерыканскі адвакат абвінавачвае беларускі дзяржканцэрн у дачыненні да свайго арышту ў Беларусі.

Эмануіл Зельцэр і яго сакратар Уладлена Функ былі затрыманыя ў сакавіку 2008 года. 11 жніўня за выкарыстанне заведама ілжывых дакументаў і замах на камерцыйны шпіянаж Зельцэр быў прысуджаны Мінскім гарадскім судом да трох гадоў пазбаўлення волі, Функ — да аднаго. 30 чэрвеня 2009 года ў Мінску адбылася сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з амерыканскімі кангрэсменамі, галоўным вынікам якой стала падпісанне ўказа аб памілаванні Зельцэра. Функ была вызвалена раней.

Праз амаль тры гады пасля вызвалення Зельцэр і Функ вырашылі прад'явіць прэтэнзіі беларускаму боку «за незаконнае выкраданне і ўтрыманне пад вартай», піша tut.by. Грамадзяне ЗША сцвярджаюць, што былі выкрадзеныя агентамі беларускіх спецслужбаў «з рэстарана ў Лондане, перавезеныя ў турму КДБ Беларусі», дзе іх «жорстка збівалі і марылі голадам, пазбаўлялі сну, адмаўлялі ў доступе да жыццёва неабходным лекаў».

Зельцэр мяркуе, што ўлады Беларусі выкарыстоўвалі іх у якасці закладнікаў, «абяцаючы вызваліць у абмен на знацце санкцый, уведзеных супраць «Белнафтахіму» і яго даччыных структур, якія кантралююцца Аляксандрам Лукашэнкам». «Сувязь з рэжымам, які праводзіць рэпрэсіі супраць уласнага народа, і стала прычынай увядзення санкцый, што беларускія ўлады паспрабавалі адмяніць, выкарыстаўшы для гэтага іх арышт», — гаворыцца ў іску.

ВІЗІТ

# МАСКВА ВЫРАШЫЦЬ УСЁ САМА

Вольга ХВОІН

**18 ліпеня ў рамках пасяджэння ўрада Саюзнай дзяржавы адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева і прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча.**

Перад прыездам высокага госця з Масквы сталіцу «зачысцілі ад непажаданых элементаў» — некалькі актывістаў апазіцыі адправілі на «суткі», а Аляксандр Лукашэнка прэвентыўна вёў размовы пра тое, што «Беларуськалій» прадаваць не плануецца.

У дзень візіту Дзмітрыя Мядзведзева быў падпісаны генеральны кантракт на будаўніцтва беларускай атамнай электрастанцыі. На пабудову двух блокаў атамнай станцыі магутнасцю да 2 400 МВт Расія выдзяляе крэдыт у 10 мільярдаў долараў. Будаўніча-мантажныя працы на першым блоку прадугледжваецца завяршыць у 2017 годзе, увод у эксплуатацыю плануецца ў 2017 годзе.

У гэты ж дзень прадстаўнікі беларускага экалагічнага руху былі затрыманыя і пакараныя быццам бы за адміністратыўныя правапарушэнні. Старшыню праўлення грамадскага аб'яднання «Экадом» Ірыну Сухій аштрафавалі на 15 базавых велічынь, каардынатара маніторынгавай групы Цэнтра прававой трансфармацыі Міхаіла Мацкевіча адправілі на трое сутак арышту. Сухій збіралася ісці ў расійскую амбасаду, каб перадаць адкрыты зварот супраць падпісання генеральнага кантракта на будаўніцтва беларускай АЭС. Мацкевіч накіроўваўся ва УУС Ленінскага раёна, дзе, як меркавалі, знаходзіліся затрыманыя раней каардынатар беларускай антыядзернай кампаніі Таццяна Новікава і расійскі фізік-ядзершчык Андрэй Ажароўскі.

У гэты ж дзень таксама было падпісанае пагадненне аб супрацоўніцтве і сумеснай дзейнасці паміж беларускай страхавой кампаніяй «Белэксімгарант» і расійскім агенцтвам па экспартным страхаванні «Эксар». «Беларусь будзе рада бачыць расійскія кампаніі ў ліку акцыянераў, уласнікаў нашай нерухомасці, а таксама будзе рада рэалізацыі расійскімі кампаніямі інфраструктурных сеткавых праектаў», — адзначыў на пасяджэнні Міхаіл Мясніковіч.

Беларускі прэм'ер нагадаў пра ўступленне Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю і падкрэсліў: у бліжэйшы час камісія ЕўрАзЭС разгледзіць пытанні пра стварэнне неабходных умоў для Беларусі. «Каб не дапусціць страты эканомікі Беларусі», — растлумачыў ён. Гэтыя пытанні, па словах Мясніковіча, трэба вырашыць у трэцім квартале.

Са свайго боку, Дзмітрый Мядзведзеў падкрэсліў, што эканамічныя адносіны Беларусі і Расіі на ўздыме, сведчаннем чаго з'яўляецца рэкордны ў гісторыі двзюх краін тавараабарот. Гэта, па словах Мядзведзева, з'яўляецца вынікам двухбаковай працы, а таксама стварэння Мытнага саюза і АЭП. «Задача — гэтыя станоўчыя пазіцыі ў эканамічнай сферы замацаваць. Для гэтага на доўгатэрміновай аснове нам трэба выйсці на рэалізацыю шэрагу сумесных інтэграцыйных праектаў», — цытуе расійскага прэм'ера БелаПАН.

Адным з такіх праектаў ён назваў будаўніцтва беларускай АЭС. «Спадзяюся, мы зможам рэалізаваць і іншыя праекты ў розных напрамках», — дадаў Мядзведзеў. Паводле яго слоў, калі гэта атрымаецца зрабіць, Беларусь і Расія не будуць залежаць ад коштаў на нафту, газ і іншыя рэсурсы.

Напярэдадні візіту ў Беларусь Мядзведзева Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што Беларусь не мае намеру прадаваць кантрольны пакет акцый ААТ «Беларуськалій», а таксама гаварыў пра магчымасць перагляду стасункаў з расійскім акцыянерам Беларускай калійнай кампаніі (БКК) — «Уралкаліем».

«Я не збіраўся і не збіраюся прадаваць» «Беларуськалій» «камусьці за бесцань. Калі нехта захоча — плаціце грошы, цана названая, ніхто яе памяншаць не будзе», — сказаў кіраўнік дзяржавы. Пры гэтым Лукашэнка падкрэсліў, што размова ідзе аб магчымасці продажу толькі пэўных працэнтаў акцый, але не кантрольнага пакета. «Лічыў і лічу, што гэта пярліна Беларусі, якая належыць беларускаму народу. Зараз вельмі шмат размоў і нават ціску, і ціск ідзе з розных бакоў, нават з тых дзяржаў, ад якіх мы вельмі залежныя. І гэтаму ціску супрацьстаяць складана», — патлумачыў Лукашэнка.

Кіраўнік дзяржавы нагадаў, што раней даручаў правесці ацэнку прадпрыемства, і кошт склаў 30–32 мільярда долараў: «Ніжэй нізк. Хочаце — калі ласка, мы вам прададзім не кантрольны пакет акцый, каб кіраванне не страціць. Давайце 10, 20, 25 працэнтаў, але плаціце», — сказаў Лукашэнка.

Паказальна, што падчас візіту ў Беларусь Мядзведзеў таксама закрануў тэму продажу «Беларуськалія». Ён нагадаў, што Беларусь і Расія рэалізуюць сумесны праект па стварэнні кампаніі «Союзкалий». Мядзведзеў падкрэсліў, што ў рамках гэтай кампаніі бакі плануюць сумесна працаваць над рэалізацыяй мінеральных угнаенняў на рынках. Пры гэтым Мядзведзеў заявіў, што любое пагадненне павінна грунтавацца на рэальных рынкавых падыходах.

«Найперш гэты візіт выконваў функцыю пацвярджэння, што праект Саюзнай дзяржавы дзейнічае, што маюць месца асаблівыя саюзніцкія адносіны, — каментуе візіт Мядзведзева ў Беларусь палітолаг Валер Карбалевіч. — Ён стаў працягам візіту Пуціна ў Мінск 31 мая, калі было засведчана, што Расія гатовая і надалей падтрымліваць Беларусь, аказваць прэферэнцыі. Другая функцыя прыезду ў Мінск Мядзведзева — пагаварыць пра праблемныя копкі ў адносінах. Адна з іх — прыватызацыя. Але, наколькі можна зразумець, размовы скончыліся нічым. Беларусь пакуль нічога не аддае, а Расія выдзяляе нам 10 мільярдаў долараў на будаўніцтва АЭС».

Чаму Беларусь так хітра абыходзіць Расію ды выцягвае ў яе грошы на свае патрэбы? Палітолаг бачыць прычыны найперш у псіхалогіі ўзаемаадносінаў. «Для Расіі Беларусь выконвае функцыю псіхалагічнага спакою, — перакананы Валер Карбалевіч. — І Лукашэнку добра ўдаецца гуляць на імперскім комплексе Расіі, на комплексе страчаных тэрыторый. Ён добра разумее сітуацыю і за гэта атрымлівае эканамічныя дывідэнды. Глядзіце, для Расіі цяпер важны праект Еўразійскага саюза, Беларусь яго падтрымлівае і за гэта атрымлівае нафту, газ па прымальных коштах».

«З афіцыйных паведамленняў вынікала, што галоўным было падпісанне пагаднення па АЭС. Аднак шэф «Расатама» не прыехаў у Беларусь. Так што, хутчэй за ўсё, нейкія пытанні засталіся не вырашанымі, — заўважае палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — На маю думку, паводзіны Мядзведзева, сам візіт сведчаць пра тое, што Масква будзе вырашаць усе пытанні сама, як ёй таго захочацца, без уліку інтарэсаў Мінска. Я б не надаваў гэтаму візіту эпахальных характарыстык. Зноў рэанімуюцца двухбаковыя адносіны, у якіх многа праблем. Хутчэй за ўсё, гэта чарговы раўнд палітычнай гульні».

ВЫБАРЫ

# ДА ЭЛЕКТАРАТУ — ПРАЗ ЗАЙЦА ВАЛЕРУ

Вольга ХВОІН

**Калі ў беларускіх выбарах нельга перамагчы, то з іх застаецца смяяцца. Да гэтай тэзы ўжо не першы раз апелююць некаторыя ўдзельнікі электаральнай кампаніі. Цягам апошніх парламенцкіх выбараў волю свайму сатырычнаму таленту даваў блогер Яўген Ліпковіч. Цяпер пра намер удзельнічаць у электаральным працэсе заявіў прадстаўнік народа Іван Амельчанка.**



Іван Амельчанка ў колах актывістаў дэмакратычных рухаў стаў вядомы пасля свайго перфомансу з плакатам: у часе Чарнобыльскага шляху Іван стаў побач з міліцыянтам, трымаючы ў руках плакат з надпісам «Мусарок». Суд Ленінскага раёна Мінска тады прысудзіў Івана Амельчанку да 15 сутак арышту за дробнае хуліганства. Маладога чалавека абвінавацілі ў тым, што ён «трымаў плакат, які выяўляў непавагу да работнікаў праваахоўных органаў і высмейваў іх дзейнасць». Адразу пасля выхаду з «сутак» на Івана зноў склалі пратакол — цяпер ужо за нецэнзурную лаянку. Трэцяе затрыманне, і таксама за дробнае хуліганства, адбылося 26 чэрвеня — Івана асудзілі на 15 сутак арышту.

Відаць, адбываючы адміністратыўныя арышты, Іван вырашыў, што трэба брацца за розум і атрымаць добрую ды спакойную прафесію. І заявіў, што мае намер балатавацца ў дэпутаты парламенту.

16 ліпеня Іван Амельчанка разам з актывістамі моладзевага руху «Zмена» правёў эфектную прэс-канферэнцыю, на якой абвясціў пра намер прыняць удзел у парламенцкіх выбарах. «Мая галоўная задача — атрымаць працу, там нармальная зарплата, абяцаюць больш за 500 долараў. Кватэра, машына, праца не пыльная — цісні на тры кнопкі. Я ў дзяцінстве «Суперконтру» прайшоў да канца, а там чатыры кнопкі было, так што я спраўлюся», — матываваў свае рашэнне ісці ў дэпутаты Іван Амельчанка.

Прэс-канферэнцыя праходзіла ў каларытным нефармальным выбарчым штабе будучага кандыдата — закінутай сядзібе ўдзельніка «Zмены» зайца Валеры. Лідар «Zмены» Павал Вінаградаў патлумачыў, што кандыдатура Амельчанкі ідэальна падыходзіць — чалавек з народа, мае крыху «адмарожаную» праграму, і ўвогуле ўпісваецца ў рамкі кампаніі моладзевых рухаў «ігнор–2012».

Вось некаторыя пункты з праграмы Івана Амельчанкі: забяспечыць жыллём ветэранаў вайны 1812 года і ўдзельнікаў броўнаўскага руху; правесці рэферэндум па перайменаванні Беларусі — усе ранейшыя дамовы стануць несапраўднымі і аўтаматычна анулююцца, краіна не будзе нічога нікому вінная; перайменаваць плошчу Бангалор у Кастрычніцкую, тады ў апазіцыі не будзе праблем і спрэчак, дзе праводзіць мітынгі, і гэтак далей. Для арганізацыі ініцыятыўнай групы Іван Амельчанка, як і Ліпковіч, выкарыстоўвае ў тым ліку і сацыяльныя сеткі.

Праўда, не ўсе разумеюць, у чым фішка выбарчай кампаніі Івана. Напэўна, таму яго ў чарговы раз адправілі на «суткі». 17 ліпеня Івана зноў затрымалі ў Мінску. Яго даставілі ў суд Ленінскага раёна Мінска, абвінавацілі ў «непадпарадкаванні распараджэнням супрацоўнікаў міліцыі» і асудзілі да 12-ці сутак арышту. Як бачым, спробы пасмяяцца з палітычнага рэжыму Беларусі заканчваюцца не надта весела.

Досвед арганізацыі кампаніі праз інтэрнэт вырашыў скарыстаць і каардынатар грамадзянскай кампаніі «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак з Гомеля. Патэнцыйны кандыдат у дэпутаты сабраў сваю ініцыятыўную групу праз сацыяльныя сеткі, і надалей плануе як мага актыўней задзейнічаць сацыяльныя сеткі падчас кампаніі. Ён перакананы, што група здолее сабраць неабходную тысячу подпісаў. Малады чалавек плануе вылучацца кандыдатам у дэпутаты як незалежны кандыдат, і збіраецца ісці да канца.

Сатырычныя электаральныя кампаніі становяцца трэндам у Беларусі. Безумоўна, мала хто звязвае з імі сур'ёзныя спадзяванні, але як элемент шоў, відовішчнасці, яны ўносяць у прадказальнае і стабільнае беларускае палітычнае поле хоць нейкую разнастайнасць. Пазітыўна яны ацэньваюцца і моладдзю, бо новае пакаленне беларусаў гадавалася пры адным кіраўніку і фактычна, апроч селектарных нарадаў ды выездаў на жніво, нічога не бачыла. Калі ў краінах па заходні бок Буга кожная палітычная кампанія — гэта падзея з не заўсёды прадказальным вынікам, то ў Беларусі ўсё ідзе па загадзя прапісанаму сцэнару. Вось у сілу ментальнай стрыманасці беларусы і даюць выхад эмацыйным патрэбам ды жаданням пабачыць новае праз зайца Валеру і кандыдатаў, што абяцаюць вырашыць жыллёвую праблему ветэранам 1812 года. Шкада толькі, што ў вярхах з пачуццё гумару слабаватае.

МЕРКАВАННЕ

# ПРАВА НА АБОРТ

Вольга ХВОІН

**Увосень 2012 года будуць уносіцца змены ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя", якім, акрамя ўсяго, дазваляецца і рэгулюецца правядзенне абортаў.**



Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь заклікала грамадзян краіны прыняць удзел у абмеркаванні праекта новага закона. У адказ юрыдычная камісія Беларускай хрысціянскай дэмакратыі падрыхтавала свае прапановы па ўнясенні змяненняў у закон. Хадэкі не хаваюць, што хацелі б дамагчыся забароны на аборты, але пачынаюць з малых крокаў. Вось асноўныя з іх:

- Увесці права для лекара адмовіцца ад правядзення аборту, за выключэннем выпадкаў правядзення аборту па медыцынскіх паказаннях і адсутнасці магчымасці замены лекара.
- Увесці абавязковы пяцідзённы перыяд чакання з моманту падачы заявы аб намеры зрабіць аборт да моманту яго правядзення.
- Абавязаць лекараў інфармаваць жанчын пра рэлігійныя і грамадскія арганізацыі, якія займаюцца прафілактыкай абортаў.
- Скараціць тэрмін для правядзення аборту да 7 тыдняў.
- Выключыць сацыяльныя паказанні для абортаў.
- Увесці забарону правядзення клінічных выпрабаванняў на чалавечых эмбрыёнах.

«Мы разумеем, што немагчыма адразу цалкам спыніць практыку масавых абортаў у Беларусі. Але сёння можна зрабіць першы важны крок на шляху да гэтай мэты. Калі прапанаваныя змены будуць прынятыя, то ўжо ў гэтым годзе будуць выратаваны тысячы дзяцей!» — апелююць да грамадскасці ініцыятары зменаў.

Раней жыхары горада Віцебска ад імя Беларускай хрысціянскай дэмакратыі накіроўвалі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы аб паляпшэнні дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне. Для гэтага можна было б увесці норму, згодна якой лекар можа адмовіцца ад выканання аборту па рэлігійных перакананнях. На гэта з Палаты прадстаўнікоў прыйшоў адказ: «камісія падзяляе вашае меркаванне аб значнасці праблемы, што падымаецца ў звароце», аднак аказанне медычнай дапамогі пацыенту з'яўляецца абавязкам доктара, а не ягоным правам. Таму дактары мусяць думаць пра свае маральна-этычныя нормы і рэлігійныя перакананні перад тым, як абіраць прафесію лекара.

Цяжка не пагадзіцца з аўтарамі праекту зменаў у закон «Аб ахове здароўя», што дэмаграфічная праблема ў краіне стаіць востра, што варта прымаць захады, каб скараціць колькасць абортаў. Але ці тыя метады? Напрыклад, пункт з увядзеннем пяцідзённага перыяду чакання лагічны — пад эмоцыямі можна нарабіць шмат чаго, а потым шкадаваць. Але прапанова выключыць сацыяльныя паказанні для абортаў падаецца нелагічнай. У пераліку сацыяльных паказанняў для штучнага перапынення цяжарнасці пазначаныя, у прыватнасці, наяўнасць інваліднасці І, ІІ групы ў мужа, цяжарнасць у выніку згвалтавання, наяўнасць дзіцяці-інваліда з дзяцінства, шматдзетнасць (колькасць дзяцей 3 і больш) ды інш. Ці будзе жаданым дзіця, што народзіцца пасля згвалтавання, ці трэба дзіцё жанчыне, якая сядзіць у турме, ці не народзіцца зноў інвалід, калі ёсць схільнасць да падобных паталогій? Падобныя пытанні не заўсёды маюць адназначныя адказы, але істотна іншае: беларускіх жанчын хочуць пазбавіць права выбару.

«Аборт — забойства. Гэта хрысціянская пазіцыя, і гэта галоўнае, чым мы кіруемся. Сёння наша грамадства, канешне, не гатовае да поўнай забароны. І мы робім прапановы абмежаванняў, напрыклад, скараціць тэрмін, калі можна рабіць аборт, да сямі тыдняў, — тлумачыць адна з распрацоўнік дакумента Вольга Кавалькова. — Мы абмяркоўвалі ўсе пытанні па тэме на круглым стале. Канешне, патрэбны комплекс мераў. Трэба, каб жанчына не хацела ісці рабіць аборт, каб мужчыны бралі на сябе адказнасць. Царква і касцёл мусяць быць катэгарычна супраць абортаў. А ў нас атрымліваецца, што грамадства катэгарычна супраць забароны на аборты. Грамадзянская супольнасць ледзьве не з ухвалай ставіцца да гэтай працэдуры. Але чым адрозніваецца жанчына, якая выкідае паміраць на сметніцу народжаных дзяцей, ад той, хто робіць аборт? Мусіць быць больш жорсткая кара за крымінальны аборт. Гэта комплекс мераў, разумееце? Тыя ж фінансавыя пытанні, бо часта ад цяжарнасці пазбаўляюцца з-за немагчымасці пракарміць дзіця».

Пра тое, што забарона на аборты абсалютна не вырашае праблему, а заганяе яе ў цень, пісалі і гаварылі многа. Дастаткова пагаварыць з тымі, хто памятае часы, калі ў СССР былі забароненыя аборты і жанчыны цішком дамаўляліся ды хадзілі да знаёмых акушэрак. Пра самапальныя метады перарывання цяжарнасці і лятальныя зыходы для жанчын таксама вядома. І калі сучасная медыцына дазваляе рабіць аперацыі пад кантролем і з прагназуемым вынікам, то хто і якое мае права гэта забараняць?

Непажаданыя цяжарнасці, хацелася б каму ці не, былі, ёсць і будуць. Такі ўжо пабочны эфект сэксуальнай прыроды чалавека. Галоўны акушэр-гінеколаг краіны Аляксандр Барсукоў паведамляе, што ва ўзросце 15–17 гадоў у Беларусі на 1 тысячу дзяўчат прыходзіцца 3,3 аборты. Палова ўсіх абортаў прыпадае на ўзрост 14–29 гадоў.

«Прапанова БХД супярэчыць правам жанчыны на рэпрадуктыўныя правы. Сям'я, сама жанчына мусяць вырашаць, колькі мець дзяцей. Праваабаронцы, жаночыя арганізацыі будуць выступаць супраць падобных зменаў, — гаворыць старшыня грамадскага аб'яднання «Жаночы незалежны дэмакратычны рух», сябар нацыянальнай рады Людміла Пеціна. — Гэта не вырашэнне праблемы, бо ёсць перакануўчы сусветны досвед: забароны правакуюць падпольныя аборты. Цяпер жа рынак такіх паслуг добра развіты ў суседніх краінах. І калі жанчыны не змогуць зрабіць аборт тут, то паедуць ва Украіну. І гэта будзе класіся вялікім цяжарам на жанчыну, сям'ю, бо будзе вымагаць іншых высілкаў і выдаткаў. Перш, чым рабіць такія прапановы па зменах заканадаўства, трэба добра вывучыць праблему».

Напрыканцы хацелася б распавесці гісторыю адной дзяўчыны. Назавём яе Ганнай. Ганна сустракалася з хлопцам, зацяжарала. Але стасункі іх былі няпэўнымі, і дзяўчына зрабіла аборт (між іншым, са згоды і ўхвалення бацькоў патэнцыйнага бацькі). Прайшло некалькі гадоў. Ганна сустракаецца з тым жа хлопцам і цяпер шкадуе, што тады пайшла ў клініку пазбаўляцца ад дзіцяці. Калі б у яе была магчымасць пагаварыць з псіхолагам, магчымасць падумаць, усё ўзважыць, абапіраючыся не толькі на свае эмоцыі, але і на цвярозыя аргументы, калі б яна была ўпэўненая, што нават без мужа зможа выгадаваць гэтае дзіця, ці пайшла б Ганна рабіць аборт? Верагодна, не.

Спыталася ў спадарыні Вольгі Кавальковай, ці ладзіла БХД нейкія маштабныя акцыі, напрыклад, у галіне асветы. «Вы ўяўляеце, што такое незарэгістраваная палітычная партыя і як яна можа правесці агульнарэспубліканскую асветніцкую кампанію? Лістоўкі раскідаць — максімум!» — патлумачыла Вольга. Аргумент у беларускіх умовах зразумелы. Але ў такім выпадку, можа, усё ж варта пачынаць з малога, з таго, што будзе сапраўды запатрабаванае і несці плён, а не высоўваць радыкальныя і архаічныя для сучаснага грамадства ідэі забаронаў.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# АДКУЛЬ БЯРУЦЦА ГРОШЫ?

**Гэта пытанне аднойчы ўзнікае ў галаве дзіцяці і потым не пакідае чалавека да сканчэння зямнога веку. Мусіць, на тым свеце грошай няма, але шмат хто з тутэйшых, падводзячы рысу, імкнецца назбіраць грошай на ўласнае пахаванне.**



Не ведаю, як з гэтым спраўляюцца ў цывілізаваным свеце ды сярод дзікуноў, а ў нас грашовае пытанне належыць да экзістэнцыяльна-метафізічных. Нават тыя, хто вывучаў эканоміку, часам не могуць на яго адказаць. А тыя, хто мае свой бізнэс, начамі не спяць у роздуме, дзе ўзяць грошы, каб разлічыцца па крэдытах ці падняць заробкі супрацоўнікам.

Дарэчы, гэта пытанне мае аднолькавую вастрыню і для буйных фірмаў, і для рознай драбязы, якая нават статыстыкай не ўлічваецца. Так пра яе і пішуць у справаздачах Белстата — «сярэдні заробак за паўгода ў арганізацыях, за выключэннем дробных прадпрыемстваў прыватнага сектара». Драбнаце, якая нават працуе часам без належнага юрыдычнага афармлення, плацяць, колькі выпадае. І могуць зусім не плаціць, калі не выпадае. На афіцыйных паказчыках гэта ніяк не адаб'ецца.

Не верыцца, калі чуеш, што дзесьці людзі атрымліваюць і меней беларускага мільёна ў адны рукі за месяц. Але такое здараецца. А меней двух мільёнаў «бруднымі» за месяц нават сярод тых, каго ўлічвае афіцыйная статыстыка, атрымлівае кожны дзявяты работнік. Калі адкінуць падаткі ды розныя абавязковыя плацяжы, атрымліваецца каля 200 долараў, на якія зусім не разгуляешся.

І што зробіш? Ведае працадавец, дзе браць грошы, або не, павінен быць гатовым да таго, каб да канца года падняць сярэдні заробак на сваёй фірме да 500 долараў. Цяжка? Зразумела. Магчыма? Новая старшыня Нацбанку Надзея Ермакова адказвае — так. Цытуем: «Увогуле, заработная плата можа дарасці да 500 долараў, але толькі ў тым выпадку, калі яна будзе заробленa, і выручка паступіць на разліковыя рахункі. Усе ўмовы для таго, каб яна дарасла да такога ўзроўню, ёсць. Для гэтага трэба працаваць...»

Вось якая разумніца, не тое, што былі да яе: сядзелі на злітках з золата і срэбра і не ведалі, якой рады даць растучаму, быццам пустазелле, золатавалютнаму рэзерву краіны. Аказваецца, яго трэба было раздаваць тым, каму для павышэння заробкаў лепей працаваць не абавязкова. Таму, каму трэба было забараніць лепей працаваць пад пагрозай звальнення. Прыкладам, ёсць бюджэтныя арганізацыі, фонд аплаты працы якіх цалкам залежыць ад штатнай колькасці супрацоўнікаў. Чым іх болей, тым лепей, бо з'яўляецца магчымасць для «эканоміі». Той захварэў — жыве за кошт сацыяльнага страхавання, тая пайшла ў дэкрэт, той выконвае ваенныя абавязкі. На ўсім зарплата эканоміцца, а потым дзеліцца. Не фігуральна, а на самай справе.

Усе бюджэтныя ўстановы, асабліва чыноўніцкія, дзеляцца па доступу да бюджэтных рэсурсаў не толькі па функцыях, але і ў залежнасці ад штатнага раскладу. Чым супрацоўнікаў болей, тым вышэйшыя аклады ў начальства. У першую чаргу.

Лепей — значыць больш эфектыўна. Гэта значыць, меншай колькасцю. Трэба рабіць скарачэнні. Яны і робяцца, колькі я памятаю, пастаянна, але колькасць бюджэтнікаў рознага кшталту толькі расце. Яна расла пры сацыялізме, пры развітым сацыялізме, пры рынкавым сацыялізме, яна і зараз расце, хоць павінна была скарачацца, паколькі нейкая частка эканомікі перайшла да прыватніка.

Чаму? Метафізічны адказ на пытанне не складаны. Вось як на яго адказала Надзея Ермакова: «... Для тых, хто атрымоўвае заробак з бюджэту, ён прапісаны ў выдатковай частцы бюджэту. Усё астатняе насельніцтва, якое атрымлівае заробак на прадпрыемствах, павінна яго зарабіць. Гэта значыць, вырабіць прадукцыю, прадаць, атрымаць выручку».

Але яна забылася дадаць, што выручка павінна быць такой вялікай, каб у прадпрыемстваў пасля пагашэння ўсіх абавязкаў заставаўся прыбытак. Каб было чым плаціць заробкі. Бо адказ, дзе браць грошы, для розных людзей розны. Для бюджэтнікаў — перш-наперш трэба «выбіць фінансаванне». Чым больш атрымаюць бюджэтнікі, тым больш грошай з'явіцца на рынку, тым лепей для камерцыйных прадпрыемстваў, бо на рынку з'явіцца плацежаздольны попыт. Магчыма, і на прадукцыю іх прадпрыемства.

Вось і атрымоўваецца, чым больш бюджэтнікаў, тым лепей. А іх болей тады, калі яны дрэнна працуюць або не працуюць увогуле.

Пры гэтым Надзея Ермакова лічыць, што эмісійныя грошы на выплату заробкаў у выглядзе крэдытавання не пойдуць. Але, як сведчыць статыстыка Нацыянальнага банка, аб'ём шырокай грашовай масы ў чэрвені павялічыўся на 5,5% пасля падвышэння на 4,4% у маі, на 3% у красавіку і на 2,8% у сакавіку. На думку незалежных экспертаў, гэта з'ява ў вялікай ступені абумоўлена захадамі ўладаў па адміністратыўнаму падвышэнню заробкаў.

Дзе браць грошы, яны ведаюць...

ТРЭЦІ СЕКТАР

# ЗІНАІДА ЦІМОШАК

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**У беларускім дэмакратычным асяродку, асабліва ў рэгіёнах, існуе дастаткова папулярнае меркаванне, што ў беларускай апазіцыі многа «генералаў» і мала «шарагоўцаў». Гераіня гэтага нарыса — менавіта «шараговая» ў тым сэнсе, што не піярыцца ў СМІ, а сціпла робіць штодзённую канкрэтную працу, патрэбную для людзей, на якую, аднак, мясцовыя ўлады рэагуюць рэпрэсіямі.**



## Вясковае дзяцінства

Нарадзілася Зінаіда Цімошак 27 чэрвеня 1955 года ў вёсцы Аксаміты Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Апрача яе ў сям'і было яшчэ чацвёра дзяцей. Амаль усе сталі настаўнікамі, што цалкам зразумела, бо і бацькі і большасць іх сваякоў выкладалі ў школе.

Маці, Марыя Васільеўна, мела нямецкія карані. Яе продкі сталярнічалі ў Радзівілаў. Яна выкладала геаграфію ў вясковай школе. Хадзіла на працу за пяць кіламетраў ад вёскі, дзе жыла.

Бацька, Вячаслаў Іванавіч, выкладаў беларускую мову і літаратуру. Падчас вайны ён быў партызанам. Захварэў і стаў інвалідам. У юнацтве сябраваў з пісьменнікам Янкам Скрыганам, любіў слухаць Радыё «Свабода» і «Голас Амерыкі».

Шмат гадоў таму Зінаіда Цімошак расказвала мне, як сялянскія дзяўчынкі тых гадоў выраблялі для сябе лялькі — пачатак кукурузы заварочвалі ў анучкі. І любілі іх не менш, чым сучасныя дзяўчынкі любяць Барбі.

Інтарэсы ў дзяцінстве мела living рознабаковыя. Запоем чытала кніжкі, прычым любіла гэта рабіць, залезшы на верхавіны дрэў, што выклікала жах у дзяўчынак-аднагодак. Была сваёй у кампаніі хлапчукоў, якія ахвотна прымалі яе ў каманду падчас гульняў у футбол і хакей.

## Сямейны выбар

Спачатку Зінаіда паступала ў прэстыжны інстытут (зараз — універсітэт) замежных моваў, але не прайшла па конкурсу. Не хапіла паловы бала. Каля года працавала на Мінскім шарыкападшыпнікавым заводзе, дзе ёй прапаноўвалі паступаць у РТІ, але настаўніцкія гены падказалі іншы шлях — педінстытут. Абрала «гісторыю і замежную мову». У будучым не неаднаразова будуць выкарыстоўваць у якасці перакладчыка, а часам і экскурсавода.

Размеркаванне атрымала ў вёску Салігорскага раёна. Праз два гады выйшла замуж за бухгалтара мясцовага калгаса, які даволі часта міняў месцы жыхарства і працы. Так апынулася ў пасёлку Вежы Слуцкага раёна Мінскай вобласці, дзе пражыла 19 гадоў.

Пасёлак быў пабудаваны для чарнобыльскіх перасяленцаў. З абароны іх правоў у другой палове 1990-х і пачалася грамадска-палітычная дзейнасць Зінаіды Цімошак.

## Вясковае іншадумства

Справа ў тым, што прыватызаваць новыя кватэры перасяленцам забаранялася. Разам з імі яна прайшла амаль усе ўладныя структуры, у тым ліку і Адміністрацыю прэзідэнта. Па сутнасці, гэта і стала штуршком да адкрытага змагання з мясцовай бюракратыяй, у працэсе якой Зінаіда далучылася і да палітычнай дзейнасці.

А да таго яна жыла сваім прыватным жыццём. Пасля разводу з мужам выхоўвала дачку, працавала ў школе. Мела шмат сялянскіх клопатаў, вырошчвала садовыя суніцы на продаж.

На прэзідэнцкіх выбарах прагаласавала за Зянона Пазьняка. Вабіла яго праграма Адраджэння Беларусі. У другім туры, выбіраючы паміж Кебічам і Лукашэнкам, свой голас аддала на карысць цяперашняга кіраўніка краіны. Хацелася перамен. Але ўжо падчас першага з'яўлення яго на экране тэлебачання спужалася за будучыню Беларусі.

Падчас восеньскага рэферэндуму 1996 года ўласнаручна прымацавала на дзвярах школы, дзе павінна было праходзіць галасаванне, артыкул Паўла Шарамета «В Беларуси грядет «новый порядок». Удастся ли перед ним захлопнуть дверь?».

Калі пачаўся збор подпісаў за стварэнне «Хартыі–97», Зінаіда Цімошак не толькі паставіла свой аўтограф, але загітавала яшчэ больш за 60 землякоў. У дапаўненне да звароту «Хартыі–97» вяскоўцы дапісалі яшчэ адзін пункт — «Супраць паліцэйскай дзяржавы».

Можна толькі ўявіць, колькі негатыўных эмоцый гэта выклікала ў мясцовага начальства. Колькасць праверак настаўніцкай дзейнасці Зінаіды Цімошак значна ўзрасла. Але ўлады не ўлічылі два моманты.

Па-першае, характар Зінаіды Цімошак. Яна нідзе і ніколі не падлашчвалася да розных правячых і ніколі моўчкі не праглынала абразы. Па-другое, была не тым чалавекам, які трымаецца «да пасінення» за сваё працоўнае месца. Нягледзячы на прэсінг, працягвала на ўроках гісторыі і курса «Чалавек. Дзяржава. Грамадства» тлумачыць накірункі развіцця нашай дзяржавы.

Пасля ўвядзення кантрактнай сістэмы адбілася ад спробы звальнення «по истечению срока контракта». Дамаглася, што замест звальнення з ёй быў падпісаны кантракт на большую колькасць гадоў, чым з іншымі настаўнікамі. Ці не ёсць гэта доказам, што гонар і годнасць, актыўная пазіцыя, а не ціхае прыстасаванства — найлепшы спосаб застацца самім сабой, захаваць павагу вучняў.

Чапляцца за школу Зінаіда не стала — адбіліся нервовыя перагрузкі, і праз год пасля падпісання новага кантракту пайшла на пенсію па выслузе гадоў.

## Маральна-палітычны выбар

Пасля падпісання «Хартыі–97» Зінаідзе Цімошак было не проста цяжка, а вельмі цяжка працаваць. Асабліва, калі ўзгадаць, што менавіта вёска была традыцыйным апірышчам дзейнага прэзідэнта. А тут такое выключэнне…

Больш за тое, пасля падпісання аднаго з самых вядомых апазіцыйных дакументаў яна атрымала па пошце ліст, у якім невядомыя аўтары даводзілі, што ёй «вынесены прысуд». У адказ яна ўступіла ў Аб'яднаную грамадзянскую партыю, у шэрагах якой знаходзілася да 2001 года. Для ўлады гэта была аплявуха, якую не даруюць і не забываюць. На мой погляд, менавіта тады мясцовыя чыноўнікі добра запомнілі прозвішча Цімошак.

У спіс падобных «аплявух» можна дадаць і кіраўніцтва ініцыятыўнай групай жонкі апальнага палітыка Міхаіла Чыгіра — Юліі Чыгір на парламенцкіх выбарах у 2000 годзе. І каардынацыю кампаніі адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года. Увогуле, яна прымала (у розных якасцях) удзел ва ўсіх выбарчых кампаніях. А гэта больш як дзесяць гадоў.

## ЧП мясцовага маштабу

Адбылося яно летам 2009 года. На той час Зінаіда Цімошак цалкам пераключылася на грамадскую дзейнасць. Дакладней, на тую яе частку, якая скіравана непасрэдна на вырашэнне штодзённых людскіх праблем. Маем на ўвазе ямы на дарогах, лямпачкі ў пад'ездах, рамонт дамоў, судовыя працэсы і г.д. і да т.п.

Чыноўнікі розных узроўняў не на жарт нерваваліся, калі на канвертах бачылі яе не па-настаўніцку дробны почырк. І як жа радаваліся, калі бяда здарылася менавіта ў яе.

У падвале дома прарвала трубу, і чорная вада з мазутам затапіла двухпакаёвую кватэру Цімошак на першым паверсе. Высветлілася, што ў нас, як заўсёды, няма «крайніх». З падвала шматпакутнага дома нечакана ўсплыла вялікая палітыка.

Аказваецца, у апошнія гады прыгожы «чарнобыльскі» пасёлак стаў паказушным аграгарадком. То бок з балансу мясцовага калгасу яго знялі, а афіцыйнага новага гаспадара не прызначылі. І ніхто да здарэння з прарывам трубы пра гэта не памятаў. Альбо не хацеў…

Пераказваць далейшыя падзеі няма сэнсу па той прычыне, што друкаваныя словы пра выратавальнае "адно акно" і «сацыяльную справядлівасць» у нас можна ўбачыць ТОЛЬКІ ў дзяржаўных газетах і пачуць ТОЛЬКІ па дзяржаўным тэлебачанні...

Зінаіда Цімошак здолела сябе абараніць праз суд і атрымаць кампенсацыю матэрыяльных і маральных страт.

## Церні забытых могілак

Напрыканцы 2009 года Зінаіда Цімошак была вымушана перабрацца ў Слуцк, і з гэтага моманту пачалося яе гарадское жыццё. Хаця (як і раней) у вёсках яна бывае даволі часта. Людзям трэба дапамагаць. І не толькі жывым.

Адзін пералік апошніх яе справў (у большасці праваабарончага кшталту) зойме даволі шмат плошчы, таму я спынюся толькі на тым, што стала прычынай непрыемнасцей апошняга часу. Гаворка пра могілкі. Дакладней, пра тое, у якім стане тыя знаходзяцца.

Зінаіда Цімошак лічыць, што адносіны да продкаў — гэта адзін з паказальнікаў культурнага стану грамадства. Дзякуючы кампаніі «Кветкі замест асоту» пад патрабаваннем аб прывядзенні беларускіх вясковых могілак у парадак у Слуцку былі сабраны больш за 3000 подпісаў, а ў краіне — больш за 5000. У выніку аблвыканкамы атрымалі даручэнне ад Міністэрства ЖКХ навесці парадак на месцах пахаванняў і па магчымасці пачаць выконваць Закон аб пахаваннях: стварыць спецыялізаваныя брыгады або перадаць вясковыя могілкі на баланс ЖКХ.

У Слуцку па-ранейшаму ўлады не выконваюць Закон аб пахаваннях. Зачыненыя старажытныя могілкі, якія знаходзяцца амаль што ў цэнтры горада, улетку выглядаюць жудасна.

Магілы, што зараслі хмызняком і бур'янам (у тым ліку і паэта-дэмакрата Альгерда Абуховіча) шакавалі многіх, але толькі Зінаіда Цімошак вырашыла зняць з павесткі дня гэту праблему канчаткова.

Усе спробы навесці там парадак з 2008 года з дапамогай уладаў былі безвыніковымі. Мала вынікаў даў і суд па гэтай праблеме. Таму, калі ў раённым Савеце дэпутатаў прапанавалі Зінаідзе Цімошак правесці суботнік, яна ўбачыла ў гэтым рэальнае святло ў канцы тунелю.

Не раз даводзілася быць сведкам яхідна-іранічных адносін чыноўнікаў да сваіх апанентаў з апазіцыі. Маўляў, «болтать — не мешки с песком таскать». Канешне, бачыць падобнае непрыемна, але (дзеля праўды) трэба прызнаць, што пэўныя падставы для гэтага ёсць...

Напэўна, нехта разлічваў, што так будзе і ў нашым выпадку, але ён памыліўся. Зінаіда не толькі не адступілася ад сваёй ідэі, але і вырашыла засяродзіць на ёй як мага больш увагі. Паколькі менавіта раённы Савет дэпутатаў мог дапамагчы фінансаванню ўпарадкавання могілак, яна запрасіла на мерапрыемства 25 дэпутатаў раённага Савета, напісала ліст з просьбай аб арганізацыі суботніка старшыні Савета, размясціла адпаведную аб'яву ў інтэрнэце.

1 кастрычніка 2011 года на слуцкіх могілках адбыўся незапланаваны (экстраардынарная рэч) уладамі суботнік. Апошнія (як амаль заўсёды) яго дэманстратыўна праігнаравалі, а вось грамадскія актывісты адной з вядомых структур так званага «трэцяга сектару» прынялі актыўны ўдзел. Што і скончыўся судовымі «разборкамі».

Для кожнага з дэпутатаў (слуцкае ЖКГ заявіла пра адсутнасць рыдлёвак) актывісты грамадзянскай кампаніі «Наш дом» з іншых гарадоў прывезлі па рыдлёўцы, прымацаваўшы на іх таблічкі з прозвішчамі. Пазней у абвінавачваннях на адрас актывістаў гэтыя рыдлёўкі былі чамусьці былі ахарактарызаваны як рэчы «падобныя да крыжоў».

Даводзілася чуць, што ў многіх прадстаўнікоў беларускай апазіцыі гэта падзея выклікала адмоўную рэакцыю, але мне не хацелася б быць тут суддзёй. Як кажуць, што зроблена, то зроблена. Тым больш, што далей у гэтай гучнай гісторыі з'явяцца і сапраўдныя суддзі.

Дэпутаты на суботнік не прыйшлі, а пасля напісалі адпаведныя заявы ў мясцовы РАУС. 25 лістапада 2011 года адбыўся адміністрацыйны суд, які пакараў Зінаіду Цімошак штрафам у памеры 700 000 беларускіх рублёў.

Некаму гэтага падалося замала, і чацвёра «народных абраннікаў» вясной 2012 года зноў звярнуліся ў суд. Трое прасілі кампенсаваць іх «маральныя пакуты» ў памеры 5 мільёнаў рублёў, адзін — аж 7 мільёнаў. У судзе гэтыя вялікія сумы ператварыліся зноў у 700 000.

І нікога не засмуціў той факт, што засудзілі «без віны вінаватую», нават міліцыянты, што прысутнічалі на могілках падчас суботніка, не склалі ніводнага пратакола аб адміністрацыйных парушэннях.

Аднак зараз я хачу сказаць не пра гэта, бо і так добра вядома, якую нішу ў нашым грамадстве сёння займаюць суды.

Уразіла, што тыя, хто па сутнасці «падставіў» Зінаіду Цімошак, не сталі дзейнічаць па агідтнаму прынцыпу «я — не я, і кабыла не мая». Больш за тое, у судзе засведчылі сваю прыналежнасць да інцыдэнту. У дадзеным момант ідуць розныя касацыі, таму я не буду пакуль называць прозвішч. Але з задавальненнем гэта зраблю, калі будзе пастаўлена канчатковая кропка.

Калі нехта думаў, што судовы пераслед спыніць былую сельскую настаўніцу, ён зноў памыліўся. Як вядома, бітвы выйграюць не генералы, а шараговыя салдаты.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 23 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё». Фільм «Першае каханне. Невымоўныя словы».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Мультфільмы «Ну, пачакай!».
**14.45** «Маляваны рай». Дак. фільм.
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда». Фільм «Томас Андэрс».
**16.20** Серыял «Шырокая рака».
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**22.45** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Фантастычная камедыя «Дзе мая тачка, чувак?» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць выдатна!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Вечны кліч» Ады Рогаўцавай».
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальнае кольца». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кітайскі сервіз».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік». «Уладзіслаў Галубок. Шэкспір з народа».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Русалім. У госці да Бога».
**00.20** Андрэй Малахаў у прграме «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінскчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** «Зорны рынг». Лепшае.
**15.15** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Мінскчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «На масце». Украіна, 2007 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Навіны надвор'я.
**09.35** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**10.40** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**11.55** «Да мяне, Мухтар!» (СССР).
**13.35** Бухта капітанаў.
**14.15** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**15.00** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**16.45** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Спартовая камедыя «Касталом ці «Злосная машына» (Вялікабрытанія-ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**22.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Пончык Люся».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «ХА». Маленькія камедыі.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Геніяльны пустэльнік. Вечная музыка Шварца».
**00.05** Алена Якаўлева ў тэлесерыяле «Каменская».

### НТВ

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.05** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.20** Серыял «Опергрупа-2».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Галоўная дарога.
**18.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### EUROSPORT

**00.00** Тэніс. Турнір WTA. Карлсбад. Фінал.
**01.45, 11.45, 19.45** Веласпорт. Нацыянальны тур. Тур дэ Франс. 20-ы Этап.
**02.15, 09.30** Аўта і Мотаспорт. (Мотаспартовы часопіс).
**09.45** Супербайк. Чэмпіянат Свету. Чэхія. 1-2 спробы.
**10.45** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг. Бразілія.
**13.00, 15.00, 17.45, 21.30** Усе віды спорту.
**13.15** Скачкі ў ваду. Чэмпіянат Еўропы.
**14.15** Лёгкая атлетыка.
**14.30** Алімпійскія гульні.
**15.15** Веласпорт. Чэмпіянат Свету па велагонках на трэку. Мельбурн.
**16.30** Лёгкая атлетыка.
**16.45** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. +75 кг.
**18.00** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. +105 кг.
**19.00, 21.45, 23.30** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**19.30** Алімпійскія гульні.
**22.00, 22.30** Пра рэстлінг.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Англійская для дзяцей.
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.00** «Піпі Доўгая панчоха», серыял.
**08.55** Басаножж па свеце.
**09.20** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы, дак. фільм, 2000 г., Францыя: 4 серыя, «Смерць у каланіяльным стылі. Забойства Патрыса Лумумбы».
**10.15** Euromaxx.
**10.40** «Каралева Бона», тэлесерыял: 7 серыя.
**11.40** «CIA: таемныя войны», рэж. Вільям Карэль, 2008 г., Францыя: фільм 3, «Вайна спараджае вайну (1990–2001)».
**12.35** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**13.30** Размовы эксперта.
**13.55** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 14 серыя.
**14.55** Фільматэка майстроў: «Грамадзянін Гавэл», рэж. Міраслаў Янэк, Павэл Коўтэцкі, 2008 г., Чэхія.
**17.00** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2000 г., Францыя: 4 серыя, «Смерць у каланіяльным стылі. Забойства Патрыса Лумумбы».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 29 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басаножж па свеце.
**19.35** Англійская для дзяцей.
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння.
**20.35** Размовы эксперта.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.55** Фільматэка майстроў: «Грамадзянін Гавэл», рэж. Міраслаў Янэк, Павэл Коўтэцкі, 2008 г., Чэхія.
**00.00** Аб'ектыў.
**00.25** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 2 серыя.
**01.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 24 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**10.10** Арэна.
**10.40** Мультфільм «Ну, пачакай!».
**10.50** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** «Здароўе». Ток-шоў.
**16.15** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія-Украіна). Заключная серыя.
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**23.00** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Драма «Я ведаю, што ты ведаеш» (Вялікабрытанія).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальнае кольца». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом ўзорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Высоцкі. Апошні год».
**00.20** Андрэй Малахаў у прграме «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінскчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Дарагая перадача».
**08.40** «Кіно».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Добры». Германія-Вялікабрытанія.
**15.35** «Ваенная таямніца».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінскчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Няскончаная п'еса для механічнага піяніна». СССР, 1976 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** Конны спорт. Этап Кубка Нацый па канкуру ў Рызе.
**00.55** «Забойчая сіла 4». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Цела чалавека.
**09.40** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**10.45** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.50** Школа рамонту.
**12.55** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**14.05** Бухта капітанаў.
**14.45** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**15.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**16.40** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Меладрама «Ў Амерыцы» (Ірландыя-Вялікабрытанія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**22.40** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Пончык Люся».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.25** Навіны культуры.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Смех скрозь слёзы. Леанід Енгібараў».
**00.05** Алена Якаўлева ў тэлесерыяле «Каменская».

### НТВ

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.10** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.20** Серыял «Опергрупа-2».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### EUROSPORT

**00.00, 15.00, 19.45** Алімпійскія гульні.
**00.15, 09.30** Веласпорт. Нацыянальны тур. Тур дэ Фран. 20-ы Этап.
**01.15** Лёгкая атлетыка. Міжнародны турнір IAAF Астрава.
**11.00** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**11.30, 13.00, 14.15, 15.30, 18.30** Усе віды спорту.
**11.45** Веславанне на байдарках і каноэ. Чэмпіянат Еўропы. Заграб.
**12.45** Фітнэс.
**13.15** Плаванне. Чэмпіянат Еўропы.
**14.30** Тэніс. «Матс пойнт».
**15.45** Лёгкая атлетыка. Міжнародны турнір.
**17.00, 17.15, 21.00** Лёгкая атлетыка.
**18.45** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 5.
**20.00** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. +75 кг.
**21.15** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. +105 кг.
**22.15** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**22.45** Бокс. Германія - Цяжкая вага.A. Dimitrenko (Германія) - K. Pulev (Балгарыя).

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.45, 17.05** «CIA: таемныя войны», рэж. Вільям Карэль, 2008 г., Францыя: фільм 3, «Вайна спараджае вайну (1990–2001)».
**08.35** «Час гонару», серыял: 29 серыя.
**09.25** Басаножж па свеце.
**09.50** Еўропа сёння.
**10.15** Размовы эксперта.
**10.40, 15.45** Гісторыя – на вакацыі: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**11.05** «Мой Нікіфар», маст. фільм, рэж. Кшыштаф Краўзэ, 2004 г., Польшча.
**12.45** Два на два (тэлдыскусія).
**13.10** Дак. гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, рэж. Томас Гіфэр, 2000 г., Францыя: 4 серыя, «Смерць у каланіяльным стылі. Забойства Патрыса Лумумбы».
**14.05** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 2 серыя.
**14.55** Басаножж па свеце.
**15.20** Еўропа сёння.
**16.15** МакраФон.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 30 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар.
**19.25** Паляванне на дзівосы.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах.
**20.35** Прыватная калекцыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Беларусы ў Польшчы.
**21.40** Форум (ток-шоу).
**22.30** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Трысняговы танец», дак. фільм, рэж. Анджэй Фідык, 2000 г., Польшча.
**23.35** МакраФон: Канцэрт «Іх N.R.M – іх Мроя»: ч. 3.
**00.10** Аб'ектыў.
**00.35** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 25 ліпеня, серада

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка передач.
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.35** Зона камфорту.
**16.10** Тэлефільм АТН «Клімавічы» цыкла «Зямля беларуская».
**16.25** Меладраматычны серыял «Пачаць спачатку. Марта» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**23.00** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Біяграфічная драма «Водгаласы мінулага» (Вялікабрытанія- Іспанія).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальнае кольца». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Свая каляіна».
**00.30** Андрэй Малахаў у праграме «Дэтэктар хлусні».
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Няскончаная п'еса для механічнага піяніна». СССР, 1976 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойная сіла 4». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Фабрыка шчасця». Украіна, 2007 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Калі ласка, скардзіцеся».
**23.20** «Забойная сіла 4». Серыял.
**00.15** «Дзіўная справа».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Наперад у мінулае.
**09.40** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**10.55** Меладрама «Ў Амерыцы» (Ірландыя-Вялікабрытанія).
**12.50** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**14.00** Бухта капітанаў.
**14.40** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**15.05** Еш і худней.
**15.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**16.40** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 3-я серыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Спартовая драма «Трэнер Картар» (ЗША-Германія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 3-я серыя.
**22.40** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.35** Крымінальны баявік «Дрэнь» (СССР).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Пончык Люся».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.25** Навіны культуры.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** Урачыстае адкрыццё Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў «Новая хваля-2012». Трансляцыя з Юрмалы.

### НТВ

**06.05** Следства вялі.
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.20** Серыял «Опергрупа-2».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Выратавальнікі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### Eurosport

**00.45** Ралі.
**01.15** Аўтагонкі. Суперкубак Паршэ. Германія.
**01.45** Аўта і Мотаспорт. Мотаспартовы часопіс.
**02.00** Супербайк. Чэмпіянат Свету. Чэхія. 2-я Спроба.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Алімпійскія гульні.
**10.15** Усе віды спорту.
**10.30** Плаванне. Чэмпіянат Еўропы.
**11.30** Усе віды спорту.
**11.45** Лёгкая атлетыка. Міжнародны турнір IAAF Астрава.
**13.15** Усе віды спорту.
**13.30** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 5.
**15.15** Алімпійскія гульні.
**15.30** Лёгкая атлетыка.
**16.30** Лёгкая атлетыка.
**16.45** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**17.15** Усе віды спорту.
**17.30** Алімпійскія гульні.
**17.45** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**23.45** Алімпійскія гульні.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Фільм са страшнай назвай».
**07.40** Форум (ток-шоу).
**08.30** «Час гонару», серыял: 30 серыя.
**09.15** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.30** Паляванне на дзівосы (спазнавачая праграма).
**09.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.40** Беларусы ў Польшчы.
**10.55** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Трысняговы танец», дак. фільм, рэж. Анджэй Фідык, 2000 г., Польшча.
**12.00** Форум (ток-шоу).
**12.50** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**13.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**13.55** Паляванне на дзівосы (спазнавачая праграма).
**14.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.40** Прыватная калекцыя.
**15.05** МакраФон: Канцэрт «Іх N.R.M – іх Мроя» ч. 3.
**15.35** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Трысняговы танец», дак. фільм, рэж. Анджэй Фідык, 2000 г., Польшча.
**16.40** Беларусы ў Польшчы.
**17.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 8 серыя.
**17.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 31 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Аўтастопам праз Еўропу.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**22.30** «Дэструктыўная арганізацыя», рэпартаж, рэж. Віктар Самойлаў, 2010 г., Беларусь.
**22.50** Аб'ектыў.
**23.15** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 6 серыя.
**00.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 26 ліпеня, чацвер

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.10** Зямельнае пытанне.
**10.35** Мультфільм «Ну, пачакай!».
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.35** Медычныя таямніцы з доктарам А.Цярэшчанкам.
**16.10** Тэлефільм АТН «Гомель» цыкла «Зямля беларуская».
**16.25** Серыял «Пачаць спачатку. Марта».
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.35** Лондан-2012. Алімпійскія гульні. Футбол. Беларусь - Новая Зеландыя. Прамая трансляцыя.
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальнае кольца». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Алімпіяда. Прагнозы і стаўкі».
**00.20** Андрэй Малахаў у праграме «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.55, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Калі ласка, скардзіцеся».
**08.50** « Фабрыка шчасця». Украіна, 2007 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойная сіла 4». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Цэгла». ЗША, 2005 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** Конны спорт. Этап Кубка свету па канкуру ў Рызе.
**00.25** «Забойная сіла 4». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Еш і худней.
**09.35** Драматычны серыял «Вар'яты-4». Заключная серыя (ЗША).
**10.40** «Адкрыцці». Дакументальны фільм.
**11.20** Бухта капітанаў.
**12.00** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**12.50** Еш і худней.
**13.20** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**14.25** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 4-я серыя, заключная.
**15.40** Рэгіянальная праграма.
**16.40** Лондан-2012. Алімпійскія гульні. Футбол. Іспанія - Японія. Прамая трансляцыя.
**18.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Іранічны дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 4-я серыя, заключная.
**22.40** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.35** Псіхалагічная драма «Апошняя паездка» (Аўстралія).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Пончык Люся».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «Гарадок». Дайджэст.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Новая хваля-2012». Трансляцыя з Юрмалы.

### НТВ

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Ахтунг, русіш!».
**11.10** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.20** Серыял «Опергрупа-2».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Бывае ж такое!».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### Eurosport

**00.15** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**01.15** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**01.30** Алімпійскія гульні.
**02.00** Чэмпіянат Свету ў класе.Турынг.
**09.30** Алімпійскія гульні.
**10.00** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**13.00** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**14.00** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 8 серыя.
**08.25** Побач з намі.
**08.40** «Час гонару», серыял: 31 серыя.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Праект «Будучыня».
**10.30** Аўтастопам праз Еўропу.
**10.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**11.00** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**11.45** «Дэструктыўная арганізацыя», рэпартаж, рэж. Віктар Самойлаў, 2010 г., Беларусь.
**12.10** «Бульбаны», мультсерыял.
**12.20** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 8 серыя.
**13.05** Побач з намі.
**13.20** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 6 серыя.
**14.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**14.40** Праект «Будучыня».
**15.10** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**15.55** Аўтастопам праз Еўропу.
**16.15** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**16.30** «Дэструктыўная арганізацыя», рэпартаж, рэж. Віктар Самойлаў, 2010 г., Беларусь.
**16.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.05** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 32 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** «Тэра постсаветыка. Дагестан», дак. фільм, рэж. Барбара Владарчык, 2011 г., Польшча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.40** «Людміла Гразнова», рэпартаж.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Паляванне на дзівосы.
**21.45** «Дэфект» (Defekt), тэлесерыял: 8 серыя.
**22.40** «Архімандрыт», дак. фільм, рэж. Юрый Каліна, 2012 г., Польшча.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 7 серыя.
**00.45** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 27 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніца, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** «Каханне і жыццё мая». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**09.45** Мультфільм «Ну, пачакай!».
**09.55** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Журналісцкае расследаванне. «Сектар».
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Серыял «Маргоша».
**14.05** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6».
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дак. серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША). Фільм «Мюнхен і Баварыя».
**16.05** «Усё шляхам!» Забаўляльная праграма пра турызм.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна). Фільм «Зорныя здрады».
**21.00** Панарама.
**21.45** Камандзіроўка.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**23.00** «Не толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Фільм-катастрофа «Пазаўтра» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальнае кольца». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі». Лепшае.
**23.35** Фільм «Рабства».
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Цэгла». ЗША, 2005 г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойная сіла 4». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Камедыя па пятніцах». «Як ажаніцца і застацца халастым». Францыя, 2006 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Еўрапейскі покерны тур».
**00.35** Прэм'ера! «Адмысловы праект». «Раманавы. Падзенне манархіі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Гістарычны дэтэктыў «Чорны замак Альшанскі». 1-я і 2-я серыі.
**11.30** Еш і худней.
**12.05** Страсці па культуры.
**13.05** Прыгодніцкі фільм «Летнія ўражанні пра планету Z» («Беларусьфільм»).
**15.35** Бухта капітанаў.
**16.15** Мультсерыял «Сямейка піратаў» (Канада). Заключная серыя.
**16.35** Жансавет.
**17.10** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Рамантычны дэтэктыў «Злавіць злодзея» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Прэм'ера. Дакументальны фільм «Стаць першым» («Беларусьфільм»).
**22.30** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**23.00** Лондан-2012. Урачыстая цырымонія адкрыцця XXX летніх Алімпійскіх гульняў. Прамая трансляцыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Пончык Люся».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.25** Навіны культуры.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Крылы анёла» (2008 г.).
**22.30** «Новая хваля-2012». Трансляцыя з Юрмалы.
**00.40** Навіны - Беларусь.

### НТВ

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** І зноў добры дзень!
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.30** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вочная стаўка.
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.15** Прафесія - рэпарцёр.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** «Ахтунг, русіш!».
**00.05** «Першабытны страх».

### EUROSPORT

**00.00** Алімпійскія гульні.
**00.30** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**01.30, 02.00** Алімпійскія гульні.
**09.30, 10.30, 14.00, 15.00** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**11.30** Алімпійскія гульні. Летнія Алімпійскія Гульні. Пекін - Цырымонія адкрыцця.
**13.00** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**13.30** Алімпійскія гульні.
**16.00** Алімпійскія гульні. Летнія Алімпійскія Гульні. Пекін - Цырымонія адкрыцця.
**17.30** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**18.00** Алімпійскія гульні.
**18.30** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**19.30** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**20.30** Алімпійскія гульні. Летнія Алімпійскія Гульні. Пекін - Цырымонія адкрыцця.
**22.00** Усе віды спорту. Вось дык так!!!
**22.30** Алімпійскія гульні.
**23.00** Алімпійскія гульні. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Цырымонія адкрыцця.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Аблавушак».
**07.40** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.40** «Час гонару», серыял: 32 серыя.
**09.30** «Тэра постсаветыка. Дагестан», дак. фільм, рэж. Барбара Владарчык, 2011 г., Польшча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Людміла Гразнова», рэпартаж.
**10.45** Паляванне на дзівосы.
**11.05** «Дэфект», тэлесерыял: 8 серыя.
**11.55** «Архімандрыт», дак. фільм, рэж. Юрый Каліна, 2012 г., Польшча.
**12.50** МакраФон: Канцэрт «Ix N.R.M – іх Мроя» ч. 3.
**13.25** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**14.15** Лета з дэтэктывам: «Фальшывафальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 7 серыя.
**15.05** «Тэра постсаветыка. Дагестан», дак. фільм, рэж. Барбара Владарчык, 2011 г., Польшча.
**15.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.10** «Людміла Гразнова», рэпартаж.
**16.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.40** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**17.00** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 8 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**20.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, аўтар сцэнара Уладзімір Халіп, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**22.00** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, рэж. Барбара Сас, 2003 г., Польшча.
**23.45** Размовы эксперта (інфармацыйнааналітычная праграма).
**00.10** Аб'ектыў.
**00.35** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 7 серыя.
**01.20** Вагон.

## 28 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія). Заключная серыя.
**10.55** Дак. серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША). Фільм «Мюнхен і Баварыя».
**11.30** Забаўляльная праграма пра турызм.
**12.10** Дэтэктыўны серыял «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка» (Расія).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка» (Расія). Закл. серыі.
**17.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Меладрама «Грошы для дачкі» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фантастычны баявік «Трансформеры» (ЗША).
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Канцэрт групы «The Cavern Beatles».
**21.05** Прэм'ера. Юбілейны вечар спевака і кампазітара Сяргея Трафімава.
**22.55** «Усё дзеля яе».
**00.40** «Адзіночнае плаванне».

### Н

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.30** «Здароўе».
**10.15** «Смак».
**10.55** «Смешарыкі. ПІН-код».
**11.10** «Час жаданняў».
**13.00** «Зваротны адлік». «Беларусь 1812. Памылка Напалеона».
**14.00** Л.Ярмольнік у фільме «Скрыжаванне».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Марк Крочыў. Нерэальная рэальнасць».
**17.10** «Хірамант». Шматсерыйны фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.

### СТВ

**06.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.10** «Анфас».
**07.25** «Далёкія сваякі».
**07.35** «Салдаты-14». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчукі».
**11.00** «Як ажаніцца і застацца халастым». Францыя, 2006 г.
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.10** «Залатая калекцыя». «Гараж». СССР.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Небяспечны Месяц».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.25** «Чацвёртая група». Расія, 2006 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Сусветны блокбастар». «Эквілібрыум». ЗША, 2002 г.
**22.10** «Зорны рынг». Лепшае.
**23.10** «Навошта табе алібі?». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Лондан-2012. Урачыстая цырымонія адкрыцця XXX летніх Алімпійскіх гульняў.
**10.30, 19.10, 23.10** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**10.55** Лондан-2012. Баскетбол. Жанчыны. Кітай - Чэхія. Прамая трансляцыя.
**12.50** Лондан-2012. Плаванне. Веславанне акадэмічная. Прамая трансляцыя.
**16.10** Лондан-2012. Бокс. Стральба куляваяя. Веласпорт. Цяжкая атлетыка. Прамая трансляцыя.
**19.30** Лондан-2012. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Лондан-2012. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**23.30** Лондан-2012. Гімнастыка спартовая. Бокс. Прамая трансляцыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Ха». Маленькія камедыі.
**07.10** «Я буду чакаць..».
**08.30** «Крылы анёла» (2008 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00, 14.00, 20.00** Весці.
**11.15** «Суботнік».
**11.50** «Выбар маёй матулі» (2008 г.).
**13.30** «У свеце жывёл».
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма Эдуарда Пятрова.
**14.50** «Каханне і галубы. Фэст-57».
**15.40** «Шукальнікі».
**16.25** «Кацярына Вароніна».
**18.10** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.30** «Васількі для Васілісы». 2012 г.
**22.20** «Новая хваля-2012». Трансляцыя з Юрмалы.

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак з Аскарам Кучэрам.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.25** Серыял «Дарожны патруль».
**15.10** «Развод па-руску».
**16.00** «Пракурорская праверка».
**17.05** Вочная стаўка.
**18.00** Выратавальнікі.
**18.30** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.25** «Прамень Света».
**20.00** «Самыя гучныя Рускія сенсацыі».
**21.55** Ты не паверыш!
**22.45** Вострасюжэтны фільм «Забойцы ў агні» з цыклу «Важняк».
**00.20** Яраслаў Бойка ў вострасюжэтным фільме «Майстар».

### EUROSPORT

**02.00, 04.00, 09.30** Алімпійскія гульні. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Цырымонія адкрыцця.
**03.00, 04.00, 06.30** Футбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскія гульні. «Ангельскі сняданак».
**11.00, 20.15** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**12.00** Плаванне. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Папярэднія спаборніцтвы.
**14.30** Акадэмічнае веславанне. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Папярэднія спаборніцтвы.
**16.10, 20.10, 00.15** Алімпійскія гульні.
**16.15** Веласпорт. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчыны. Шаша.
**18.00** Цяжкая атлетыка. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. 48 кг.
**19.10** Спартовая гімнастыка. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчынская кваліфікацыя.
**21.30** Плаванне. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фіналы.
**23.00** Спартовая гімнастыка. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчынская кваліфікацыя.
**00.45** Валейбол. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Бразілія - Турцыя.
**01.30** Плаванне. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фіналы.
**02.30** Веласпорт. Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчыны. Шаша.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**08.00** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**08.30** «Мой родны горад», серыял: 15 серыя.
**08.55** Размовы эксперта.
**09.15** Навігатар.
**09.25** Прыватная калекцыя.
**09.50** На колах.
**10.20** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 8 серыя.
**11.00** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**11.50** Англійская для дзяцей.
**12.00** Казкі для дзетак: «Сцэны з жыцця цмокаў», «Фільм са страшнай назвай», «Чацвёра вушэй у пералеску».
**12.30** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**13.00** Беларускія лёсы: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**13.25** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 7 серыя.
**14.10** Гісторыя – на вакацыі: «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, аўтар сцэнара Уладзімір Халіп, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**14.45** МакраФон: Канцэрт «Ix N.R.M – іх Мроя» ч. 3.
**15.20** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, рэж. Барбара Сас, 2003 г., Польшча.
**17.05** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 5 серыя.
**17.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэфект», тэлесерыял: 8 серыя.
**19.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.10** Еўропа сёння.
**20.40** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Браты-ворагі», дак. серыял.
**21.45** Суботні сеанс: «Маўчанне Лорны», маст. фільм, рэж. Жан-П'ер Дардэн, Люк Дардэн, 2008 г., Германія–Францыя–Італія–Бельгія.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.45** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 15 серыя.
**00.40** Жаўтуха (сатырычная праграма).

МЕРКАВАННЕ

# НІ СЯРПА, НІ МОЛАТА

**12 ліпеня парламент Малдовы прыняў пастанову, якая асуджае камуністычнае мінулае краіны і забараняе выкарыстанне ў палітычных мэтах сімволікі СССР. Пра прычыны такога рашэння і яго наступствы для краіны журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з малдаўскім палітолагам Алегам Сеняевым.**



***— Чаму дэпутаты з кааліцыі «Альянс за еўраінтэграцыю» прынялі такі закон, і ў дадатак у апошні дзень перад парламенцкімі канікуламі?***

— Закон, падтрыманы партыямі «Альянсу за еўраінтэграцыю», быў прыняты з падачы Ліберальнай партыі 53 галасамі дэпутатаў (усяго ў парламенце 101 дэпутат). Аўтары закону фармальна спасылаюцца на высновы камісіі па гістарычнай і палітыка-прававой ацэнцы таталітарнага камуністычнага рэжыму ў Рэспубліцы Малдова, якая была створаная загадам Гімпу, калі ён выконваў абавязкі прэзідэнта.

Камісія прыйшла да высновы, што партыя камуністаў на тэрыторыі Рэспублікі Малдова вяла антынародную палітыку рэпрэсій, дэпартацый, знішчэння культуры і мовы народа. Таталітарны рэжым таксама перашкаджаў абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці малдаўскага народа. На думку сяброў камісіі, спадчына Леніна і Сталіна з'яўляецца перашкодай для праўдзівай нацыянальнай ідэнтычнасці і перашкодай на шляху еўрапеізацыі. Сыходзячы з гэтых высноў лібералы прапанавалі забараніць камуністычную сімволіку і асудзіць камуністычную таталітарную ідэалогію.

Праўда, некаторыя кажуць, што камісія тут не пры чым. Гімпу хацеў неяк дапамагчы саюзніку Траяну Бэсеску — экс-прэзідэнту Румыніі, якога адправілі ў адстаўку за карупцыю. 29 ліпеня на рэферэндуме румыны галасуюць за тое, каб аднавіць паўнамоцтвы Бэсеску. Апошні аб'ектыўна зацікаўлены ў галасах прыхільнікаў інтэграцыі Румыніі і Малдовы, якая немагчымая без асуджэння камуністычнага мінулага.

***— Што пагражае тым малдаванам, якія і далей будуць дэманстраваць забароненыя сімвалы?***

— Фізічным асобам, якія выкарыстоўваюць забароненыя сімвалы, давядзецца заплаціць ад 20000 да 3000 тысяч леяў. Ініцыятары закона асобна падкрэслілі, што забарона не тычыцца гістарычных манументаў, узнагарод савецкіх ветэранаў і іншай асабістай маёмасці грамадзян. «У хаце можаце нават загортвацца ў коўдру з малюнкамі сярпа і молата», — угаворваў падчас парламенцкіх дэбатаў камуністаў аўтар законапраекта, лідар лібералаў Міхай Гімпу.

Памер штрафаў для службовых і юрыдычных асоб значна большы — 300–500 долараў (6–10 тысяч леяў). Калі будзе мець месца рэцыдыў, наступствы будуць больш суровыя. Напрыклад, пазбаўленне легальнага статусу. Гэта пагражае Камуністычнай партыі Рэспублікі Малдова (КПРМ), якая мае ў сваёй сімволіцы выяву сярпа і молата. Калі да 1 кастрычніка, калі закон уступіць у сілу, камуністы не правядуць рэбрэндынг, то, па словах Гімпу, ПКРМ будзе выключана з рэестру партый. Увогуле, галоўны ліберал ужо прапанаваў камуністам альтэрнатыву. Па яго словах, замяніць «серп і молат» можна на «міску і лыжку» ці «кола ад тралейбуса». Мясцовыя сатырыкі прапануюць кампартыі выкарыстоўваць выяву банкаўскай карткі яе лідара, чый клан у свой час прыватызаваў цэлыя сектары малдаўскай эканомікі.

***— Як ацэньвае грамадства новы закон?***

— Прыхільнікі «Альянсу за еўраінтэграцыю» кажуць, што рашэнне 12 ліпеня — гэта праява здаровай нацыянальнай годнасці. Аднак мне здаецца, што ў большасці малдаўскіх грамадзян пераважае меркаванне, што гэта была разборка паміж парламенцкімі фракцыямі з элементамі асабістай помсты. Барацьбу з камуністычнай ідэалогіяй у Малдове Міхай Гімпу не раз называў мэтай усяго свайго жыцця. Ніякай сур'ёзнай дыскусіі ў грамадстве напярэдадні галасавання не было.

Больш таго, дэпутаты першага парламента Малдовы пасля здабыцця незалежнасці ўжо прымалі рашэнне, якое забараняе сімволіку таталітарнага камуністычнага і фашысцкага рэжымаў.

Не згодная з пастановай дэпутатаў нават частка гісторыкаў, якія ўваходзілі ў камісію. У цэлым падзяляючы ацэначны бок прынятага парламентам дакумента, яны перакананыя, што былым рэпрэсаваным значна важней практычныя дзеянні і пэўная дапамога, чым пустыя словы і законапраекты.

***— Ці гатовыя камуністы сапраўды замяніць серп і молат на выяву кола ад тралейбуса ці іншы сімвал?***

— Дэпутаты фракцыі ПКРМ адмовіліся прызнаць даклад камісіі Гімпу адпаведным праву. Па іх логіцы, Партыя камуністаў нікога ў Малдове не рэпрэсавала. Юрысты ПКРМ ужо рыхтуюць зварот у Канстытуцыйны суд, з якім яны накіруюцца туды адразу пасля ўступлення ў сілу рашэнняў парламента.

Аднак, на думку шмат каго, Кампартыя зараз выглядае не лепшым чынам. У словах яе лідара Уладзіміра Вароніна шмат істэрычных нотак. Варонін называе апанентаў прыдуркамі, параўноўвае іх з прастытуткамі і гвалтаўнікамі. Лідар камуністаў літаральна фантануе тэорыямі. Ён кажа, што пастанова парламенту з'яўляецца часткай плану па разбурэнню Савецкага Саюза, які ён, быццам, сам бачыў і які распрацоўваўся яшчэ ў час «халоднай вайны».

Па словах Вароніна, як толькі камуністамі было абвешчана пра намер далучыць Малдову да новага Еўразійскага праекта і Мытнага саюза, кампартыю вырашылі забараніць праз забарону яе сімволікі. А паколькі ПКРМ, па яго словах, партыя дзяржаўнікаў, з сыходам яе структур з палітычнай арэны Малдову пазбавяць дзяржаўнасці.

Магчыма, такая нервовая рэакцыя звязаная з тым, што камуністам не ўдалося прыручыць дэмакратаў з партыі Марыяна Лупу, які быццам бы быў не супраць заключыць з Вароніным пакт. Аказалася, што Лупу застаўся верным ідэі кааліцыі з лібераламі і ліберал-дэмакратамі.

***— Якая рэакцыя на закон пра забарону камуністычнай сімволікі ў Прыднястроўі і Гагаузіі?***

— Ужо цяпер відавочна, што новы закон не будзе распаўсюджвацца на ўсю Малдову. Так, у Прыднястроўі, якое Кішынёў лічыць неад'емнай часткай краіны, сярпы і молаты можна пабачыць на кожным кроку. У Ціраспалі забарону сярпа і молата ўжо назвалі «ўнутранай справай замежнай дзяржавы». Што тычыцца Гагаузіі, то яе кіраўнік Міхаіл Фармузал патрабаваў пасадзіць Гімпу ў турму на 20 гадоў і распрацаваць закон аб забароне ўніяністцкай прапаганды за аб'яднанне Малдовы з Румыніяй.

Аднак праблемы ва ўраду могуць узнікнуць не толькі па той бок Днястра. Ужо зразумела, што ўлады другога ў Малдове гораду Бяльцы, які кантралююць камуністы, акажуць заўзятае супрацьстаянне ініцыятыве. А 14 ліпеня камуністычны актыў сталічнага раёну Чаканы вырашыў пачаць кампанію пра непадпарадкаванне рашэнням парламента. Шматлікія секцыі КПРМ падтрымалі ідэю.

Праўда, ёсць адзін важны момант. Рашэнне парламента, незалежна ад яго зместу, не прадугледжвае механізмаў для ажыццяўлення пунктаў гэтага дакумента. На падставе гэтага рашэння неабходна ўнесці змены ў цэлы шэраг заканадаўчых актаў, каб забяспечыць прававую базу неабходным механізмам. Колькі на гэта спатрэбіцца часу, не зразумела.

***— Па словах камуністаў, рашэнне пра забарону сярпа і молата можна было не дапусціць, калі б акрамя камуністаў пасяджэнне байкатавалі таксама дэпутаты-сацыялісты Дадона і Мішына.***

— Паводле рэгламенту, для пасяджэння патрэбна, каб у парламенцкай зале была большасць дэпутацкага корпусу, але не менш 51 дэпутата. З тых, хто застаўся, — шэсць дэпутатаў належаць да груп Дадона і Мішына (палітыкі, якія выйшлі з Кампартыі). Яны галасавалі супраць законапраекту пра забарону, аднак забяспечылі кворум, што, на думку камуністаў, ёсць вялікая здрада.

На самай справе, не ўсе так проста, паколькі паміж лідарамі сацыялістаў і камуністаў шмат асабістых крыўдаў. Тым больш, што сацыялістам зараз важна дэманстраваць сваю поўную аўтаномнасць ад Кампартыі, якая патрабавала ад іх падтрымаць дэмарш, пакінуўшы залу.

Літаральна напярэдадні галасавання па сярпу і молату ў Гагаузіі вялікая група камуністаў перабегла ў лагер сацыялістаў. Гэта моцны ўдар па пазіцыях камуністаў перад прызначанымі на 9 верасня выбарамі ў Народны сход аўтаноміі.

Цяпер камуністы рыхтуюцца да гэтай электаральнай бітвы. Яе вынікі пакажуць, у якім стане знаходзіцца партыя пасля серыі гучных скандалаў з выхадам з яе вядомых палітыкаў. А пасля 12 ліпеня галасаванне набывае прысмак рэферэндуму — галасуючы за камуністаў, выбаршчыкі галасуюць і супраць забароны камуністычных сімвалаў. Мяркую, што вынікі выбараў паўплываюць на тое, ці канчаткова апынецца серп і молат у Малдове па-за законам.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Затрыманне журналіста Андрэя Пачобута стала падарункам для Расіі. Чым больш палітычных зняволеных, тым лепш. Еўрапейскі саюз не стане ўмацоўваць супрацоўніцтва з той краінай, што кідае ў турму сваіх грамадзян, якія папросту выказваюць свае меркаванні. Вядома, Расія не мае такой стрыманасці і ўжо на працягу пяці гадоў перамагае ва ўсіх палітычных канфліктах у Беларусі.

**«Correo Diplomatico» (Іспанія)**

Лідар партыі «Квітнеючая Арменія» Гагік Царукян пабудаваў у Беларусі каньячны завод, і армянскія тэлеканалы па чарзе круцілі рэпартаж, падчас якога Лукашэнка кажа хвалебныя словы на адрас Царукяна. Фактычна, адкрыты ў Беларусі завод становіцца канкурэнтам каньячным заводам у Арменіі. І калі каньяк, які будзе там выраблякцца, маюць намер экспартаваць у Еўропу, то ён стане сур'ёзным канкурэнтам армянскаму каньяку на еўрапейскім рынку. Інвестыцыі армянскага бізнэсу за мяжой можна толькі вітаць. Але гэтыя інвестыцыі павінны накіроўвацца ў сферы, у якіх у Арменіі няма канкурэнцыі. Інакш армянскія прадпрыемствы апынаюцца ў невыгодным становішчы.

**«Панарама» (Арменія)**

Лукашэнка таксама хоча аб'ядноўвацца, але тыя ўмовы, якія Пуцін яму прапануе, па-сутнасці азначаюць перадачу ўсёй прамысловасці ў рукі ліберальным алігархам, якіх ненавідзяць у Расіі. Ну, будуць ненавідзець пасля гэтага і ў Беларусі, але самае галоўнае: Лукашэнка, які страціць магчымасць кантраляваць прамысловасць, пазбавіцца цяперашніх пазіцый. Усе тры прэзідэнта хочуць інтэграцыі, але неяк недастаткова моцна.

**«Тотал» (Казахстан)**

Дзярждума стаханаўскімі тэмпамі прымае законы, што вядуць Расію да аўтарытарызму. Пуцін раней паводзіў сябе больш хітра, а зараз спяшаецца закруціць гайкі і становіцца ў адзін шэраг з Лукашэнкам.

**«Frankfurter Rundschau» (Германія)**

Беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які нядаўна падпісаў закон пра амністыю, глядзіць, як адрэагуе ЕС на яго выкрутасы. Рэжым працягвае свае маніпуляцыі, і афіцыйны Мінск дасылае сігналы як знешняй, так і ўнутранай аўдыторыі.

**«Delfi» (Літва)**

Аляксандр Лукашэнка, калі пазбавіцца «Беларуськалія», сур'ёзна аслабіць свой геапалітычны ўплыў, таму не выключана, што «продаж» калійнага прадпрыемства з'яўляецца толькі варыянтам на самы крайні выпадак. Такімі ж па значнасці стратамі для беларускага прэзідэнта (хоць і ў меншых маштабах) можа стаць перадача Расіі кантролю над Мазырскім і Наваполацкім НПЗ. А таму афіцыйны Мінск цалкам можа заняцца канцэнтрацыяй альтэрнатыўных актываў, здольных зацікавіць патэнцыйных інвестараў. Усё будзе залежаць ад умоў продажу і дамоўленасцяў з інвестарамі, якія рызыкнуць сесці за стол перамоў з беларускім прэзідэнтам. Ад гэтага залежыць, ці здолее мясцовая эканоміка ўстаць на ногі, ці яна канчаткова паваліцца.

**«Комментарии» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. ТАЙНАЯ ЗБРОЯ СААКАШВІЛІ

Прадстаўнікі грузінскага апазіцыйнага руху «Грузінская мара» звярнуліся да сусветнай супольнасці з адмысловай заявай. З тэкстам звароту журналістаў азнаёміў Леван Кіпіані — сын легенды грузінскага футбола Давіда Кіпіані. Калі верыць заяве, у грузінскім спорце, як і ў грамадстве, назіраюцца аўтарытарныя працэсы. Быццам Саакашвілі патрабуе ад атлетаў палітычнай лаяльнасці ў знак падзякі за ўключэнне ў склад нацыянальнай алімпійскай зборнай. Па словах Кіпіані, фізічна развітых спартсменаў таксама выкарыстоўваюць для таго, каб запалохваць палітычных апанентаў. «Улада стварае карныя атрады з асабліва дужых і моцных спартоўцаў, якія з адмысловай жорсткасцю разбіраюцца з грамадзянамі, у тым ліку з такімі ж спартоўцамі і іх сем'ямі. Усё гэта можа стаць чыннікам грамадзянскага супрацьстаяння», — сцвярджаюць аўтары звароту. Напрыканцы Леван Кіпіані заклікаў міжнародную супольнасць і спартовыя арганізацыі да тэрміновай рэакцыі. Па яго словах, зварот ужо падпісалі каля 130 грузінскіх спартоўцаў, сярод якіх чэмпіёны свету, Еўропы і Алімпійскіх гульняў.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ФАЛЬКЛЕНДЫ. САПРАЎДНЫ ТУРЫСТЫЧНЫ БУМ

На Фальклендскіх (Мальвінскіх) астравах назіраецца нашэсце турыстаў. Толькі за паўгода колькасць жадаючых наведаць архіпелаг, з-за якога ўжо амаль два стагоддзя сварацца Аргенціна і Вялікабрытанія, вырасла на 9 працэнтаў. Пра гэта паведамляе турыстычны дэпартамент адміністрацыі астравоў. Відавочна, што галоўны чыннік інтарэсу да Фальклендаў — 30-гадовы юбілей канфлікту Англіі і Аргенціны, які гучна адзначаецца ў абедзвюх краінах. Праўда, галоўным чынам турысты едуць сюды з Вялікабрытаніі. Паводле разлікаў турарганізатараў, дзякуючы напльву турыстаў казна астравоў папоўніцца ў гэтым годзе амаль на 7 мільёнаў фунтаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЕГІПЕТ. ФУНДАМЕНТАЛІСТЫ РЫХТУЮЦЬ ЗНОС ПІРАМІД



Па егіпецкай блогасферы гуляе чутка пра тое, што ісламскія клерыкалы з партыі «Браты-мульмане», чый кандыдат Махамед Морсі стаў прэзідэнтам краіны, пачалі дэбаты наконт магчымай дэканструкцыі славутых егіпецкіх пірамід. Яшчэ раней шмат хто з царкоўнікаў казаў пра тое, што гэтыя аб'екты — «сімвалы паганства». Падчас выбараў яны патрабавалі ад Морсі папоўніць яго выбарчую праграму пунктам, у якім ён бярэ на сябе абавязак знішчыць помнікі часоў фараонаў. Пры гэтым фундаменталісты спасылаюцца на ўчынкі папярэднікаў. Напрыклад, арабы, якія ў VII стагоддзі захапілі Егіпет, знішчылі Александрыйскую бібліятэку — цэнтр элінскай паганскай рэлігіі. На той час, аднак, у іх не было тэхнічных сродкаў знішчыць піраміды. Гэтым спрабавалі заняцца мамелюкі, якія ў XVIII стагоддзі дасталі граматы. Аднак усё абмежавалася стральбой па фігуры Сфінкса. Пакуль цяжка сказаць, ці ўключыць новы егіпецкі прэзідэнт у праграму ісламізацыі Егіпта разбурэнне аб'ектаў, якія з'яўляюцца асновай турыстычнай інфраструктуры. Тым больш, што акцыі разбурэння гістарычных помнікаў ісламістамі ў іншых краінах Міжнародны крымінальны суд разглядае як вайсковае злачынства.

**Паводле егіпецкай прэсы**

### УКРАІНА. СТВОРАНА ПАРТЫЯ ФАНАТАЎ КРАІНЫ



Фоззі

Па ініцыятыве славутага спартсмена Сяргея Бубкі і вядомага ўкраінскага музыкі Фоззі ва Украіне створаная партыя фанатаў. Яе мэта — падтрымка ўкраінскіх спартсменаў на лонданскай Алімпіядзе. Як лічыць партыйныя ідэолагі, без падтрымкі балельшчыкаў украінскія спартсмены абавязкова праваляць гульні ў Лондане. На першы погляд, партыя выглядае як нешта сярэдняе паміж прыколам і рэкламай. Так, у партыі паралельна моладзевай секцыі дзейнічае секцыя бландзінак, а спансуе фанатаў мабільная кампанія МТС. З іншага боку, нельга забываць, што Украіна знаходзіцца напярэдадні парламенцкіх выбараў, а электарат, у тым ліку моладзь, даўно страціў давер да палітыкаў. У гэтым плане не выключана, што партыя фанатаў можа працягнуць сваё існаванне і пасля Алімпіяды. Тым больш, што згаданы Фоззі стабільна ўдзельнічае ва ўсіх культурных акцыях нацыяналістаў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

---

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# НЕПАТРЭБНЫЯ ЗЕМЛЯКІ

*Алег НОВІКАЎ*




**З-за падзей у Жанаазене Казахстан прыпыняе праграму па перасяленню аралманаў — этнічных казахаў замежжа — на гістарычную радзіму.**

Вяртанне казахаў на радзіму пачалося ў 1991 годзе. Асноўная маса казахаў прыбывала з Манголіі, Ірана, Узбекістана і Кітая. Увогуле, па падліках гісторыкаў, у розныя часы туды перасялілася некалькі мільёнаў казахаў. Спачатку працэс ішоў стыхійна, але вельмі хутка ўрад узяў перасяленне на кантроль. Аралманы сталі разглядацца як важная частка дэмаграфічнай і эканамічнай палітыкі незалежнага Казахстану.

Планавалася, што за кошт аралманаў можна будзе ліквідаваць нацыянальны дысбаланс у паўночных рэгіёнах краіны, дзе ў гарадах жывуць пераважны рускамоўныя, сярод якіх на пачатку 1990-х гадоў хапала сепаратыстаў. Па-другое, ва ўрадзе спадзяваліся, што фактар аралманаў пазітыўна адаб'ецца на развіцці сельскай гаспадаркі краіны.

Пазней была прынята праграма на 2009–2011 гады «Нурлы кош» («Светлая вандроўка»), якая ставіла сваёй задачай рацыянальнае рассяленне этнічных імігрантаў і спрыянне ўлады ў іх уладкаванні. На 2011–2014 гады была ўсталявана штогадовая квота на прыезд дзесяці тысяч сем'яў. Па адмысловым распараджэнні прэзідэнта Назарбаева, у 2011 годзе квота была павялічана ўдвая. Таксама на будаўніцтва спецыяльных пасёлкаў для перасяленцаў былі выдзеленыя грошы, якія папросту аселі ў кішэнях чыноўнікаў. Па афіцыйных дадзеных, праграма «Нурлы кош» выканана толькі на 30 працэнтаў.

Выявіліся і іншыя праблемы. У аснове сваёй аралманы — гэта нізкакваліфікаваныя працаўнікі, якія могуць займацца хіба што цяжкай фізічнай працай. Адпаведна, у індустрыяльных паўночных цэнтрах месца ім не знайшлося, не кажучы пра тое, што тубыльцы сустрэлі гасцей па прынцыпу «панаехалі тут».

Нягледзячы на ўсе бонусы ўлады, аралманы аддаюць перавагу таму, каб сяліцца на поўдні краіны. Працэс гэты, па прызнанні міграцыйных улад, стаў некіраваны. Міграцыя аралманаў прывяла да актуалізацыі зямельнага пытання. Рэпатрыянтам патрэбна зямля пад хаты, а мясцовая адміністрацыя неахвотна ідзе на тое, каб даваць участкі. Наступствам гэтага сталі самавольныя захопы і праблемы з паліцыяй.

Акрамя таго, у сельскай мясцовасці беспрацоўе папросту зашкальвае. Так што навічкам заставалася разлічваць толькі на ролю парабкаў. Таму яны пачалі фармаваць працоўныя брыгады, якія вахтавым метадам працуюць на здабычы карысных выкапняў. Такія брыгады аказваюцца фундаментам для стварэння незалежных прафсаюзаў.

Прыкладна пару гадоў таму ўлады зразумелі памылковасць такой палітыкі. Першым «адзначыўся» кіраўнік дзяржавы. Улетку 2010 года падчас паездкі ў мястэчка Кызылагаш, дзе пражывае шмат рэпатрыянтаў, Назарбаеў заявіў, што «аралманы яшчэ недастаткова папрацавалі для краіны» і «няма іх ніякай заслугі ў развіцці эканомікі краіны».

Аднак галоўную пагрозу, якую нясуць аралманы, улады зразумелі пазней. Аказалася, што ім абсалютна не вядомы страх перад уладай. Калектыўны прынцып арганізацыі іх грамад фармуе ў аралманаў моцнае пачуццё салідарнасці. Нарэшце, камуны аралманаў больш рэлігійныя, і падкупіць індывідуальна іх сяброў, каб развaліць калектыўны пратэст, вельмі цяжка.

Яшчэ задоўга да падзей у Жанаазене ўлады пачалі адчуваць у прыезджых пагрозу. Так, пад Алма-Атой двойчы адбываліся сутыкненні з паліцыяй, якія арганізавалі аралманы. У ліпені 2006-га і ў 2010 годзе мелі месца беспарадкі, бо аралманы спрабавалі захапіць пустуючыя землі пад будаўніцтва сваіх дамоў.

Пасля грымнуў Жанаазен, у якім таксама не абышлося без рэпатрыянтаў. 26 працэнтаў звольненых за страйк нафтавікоў аказаліся аралманамі. Падчас канфлікту зяць прэзідэнта Цімур Кулібаеў, што звязаны з кампаніяй, на якой адбыўся страйк, заявіў: «Цяпер у Жанаазен аралманы з Туркменістана і Узбекістана пераязджаюць цэлымі вёскамі». На думку Кулібаева, «даўным-даўно трэба было абмяжоўваць прыезд людзей у Жанаазен, сацыяльная інфраструктура якога не гатовая прыняць такую колькасць прыезджых».

Калі спецназ расстраляў маніфестантаў у Жанаазене, тэма аралманаў разглядалася на самым высокім узроўні. Першым выказаўся віцэ-міністр працы і сацыяльнай абароны Біржан Нурымбетаў, які наўпрост абвінаваціў аралманаў у арганізацыі бунту.

Затым быў спіч ад дарадчыка прэзідэнта Ермухамета Ертысбаева, які заўсёды які лічыўся рупарам афіцыйнай Астаны. «Тое, што адбываецца ў Жанаазене, абсалютна не характэрна для казахскага менталітэту. Казахі ніколі не выступалі супраць цэнтральнай улады, ніколі. Асноўнымі арганізатарамі ў Жанаазене выступілі людзі, якія нядаўна атрымалі грамадзянства Казахстана, — яны прыехалі з Туркменіі, з Узбекістана, яны яшчэ не ўпісаліся цалкам у казахстанскі менталітэт», — выказаўся чыноўнік.

Пасля ўсяго гэтага не з'яўляецца дзіўным прынятае Назарбаевым рашэнне пра прыпыненне праграмы рэпатрыяцыі. Афіцыйная версія — «праграма прыпынена да адмысловага распараджэння ўрада», паколькі «новая праграма знаходзіцца на стадыі распрацоўкі ў Міністэрстве ўнутраных спраў». Адначасова стала вядома, што пасля падзей у Жанаазене пачалося сакрэтнае перасяленне «перасяленцаў» з рэгіёну.

Аднак праблема на гэтым не вырашаецца. За апошнія гады ў краіну пераехала каля 180 тысяч этнічных казахаў, якія па сутнасці да гэтага часу слаба інтэграваныя ў соцыум. Што з імі рабіць, уладам не вядома.

Між тым, сітуацыя сапраўды становіцца нездаровай. Цяпер у афіцыйнай прэсе ідзе кампанія супраць аралманаў, дастаткова паглядзець на некаторыя загалоўкі. «Аралманы — фактар рызыкі», «Дарыгу Назарбаеву (дачка прэзідэнта) просяць выселіць аралманаў з Жанаазена», «У Алма-Аты аралманы ўганялі і разбіралі на продаж выкрадзеныя іншамаркі».

Здаецца, у Алма-Аце гатовыя пазбавіцца сваіх жа землякоў, якія сталі цэнтрам сацыяльнага супраціву. Так, ужо пасля Жанаазена адбылося яшчэ некалькі пратэстных акцый, дзе зноў «засвяціліся» аралманы. Галоўным чынам яны тычыліся стану жылля перасяленцаў пад Алма-Аты. Адзін з канфліктаў закончыўся забойствам паліцыяй аднаго з аралманаў. У адказ людзі штурмавалі паліцэйскі пастарунак, аднак справядлівасці не дабіліся. Як піша прэса, гэты трагічны выпадак падштурхнуў шмат аралманаў вярнуцца ў Кітай, адкуль яны калісьці прыехалі, паверыўшы Назарбаеву.

ЦІКАВА

# ВАТЫКАН ТОПІЦЬ «ТЫТАНІК»

Алег НОВІКАЎ

**Рымскі Папа Бенедыкт XVI падаў у суд на нямецкі сатырычны часопіс «Titanic».**

Прычынай іску ў суд стала вокладка апошняга нумару «Titanic». Яна прысвечана ўнутранаму карупцыйнаму скандалу ў Ватыкане, інфармацыя пра які трапіла ў прэсу. На выяве Папы ніжэй поясу з дапамогай фоташопу намалявана вялікая жоўтая пляма. Малюнак суправаджае загаловак «Алілуя ў Ватыкане! Уцечка была знойдзена!».

Суд таксама забараніў часопісу выкарыстоўваць гэтую карыкатуру, хаця ўсе прададзеныя асобнікі не будуць адкліканы і знішчаны. Намер Папы пакараць сатырыкаў падтрымала арганізацыя «Канферэнцыя нямецкіх біскупаў». «Кантэнт вокладкі часопіса «Titanic» супярэчыць закону. Ён абражае персанальна асобу святога Папы. «Titanic» перайшоў усе межы», — гаворыцца ў заяве біскупаў. Такі погляд падзяляюць нямецкія правыя партыі. На іх думку, жарт з аўтарытэта Папы — гэта жарт з хрысціянства, якое з'яўляецца падмуркам еўрапейскага грамадства.

«Бенедыкт XVI няправільна нас зразумеў, — апраўдваецца галоўны рэдактар выдання Леа Фішар. Рэдакцыя лічыць, што нават Рымскі Папа павінен паважаць сатыру. Даводзіць у судзе гэты тэзіс «Titanic» будзе з дапамогай калегаў па журналісцкаму цэху. Міхаэль Конкен, кіраўнік Саюза нямецкіх журналістаў (DJV ), сцвярджае: «Можна спрачацца наконт густаў, аднак пазіцыя, якую заняў Папа, перашкаджае свабодзе сатыры». На яго думку, часопіс не абразіў рэлігійныя пачуцці каталікоў, паколькі аб'ектам жарту з'яўляецца бюракратыя Ватыкана.

У якасці апраўдання сатырыкі таксама паказваюць матэрыялы старых нумароў выдання, прысвечаных Бенедыкту. «Titanic» не раз публікаваў карыкатуры, дзе Папа Рымскі, прадстаўнікі каталіцкай царквы ці каталіцкія хрысціянскія святыні маляваліся ў правакацыйным выглядзе. Напрыклад, падчас дэбатаў наконт таго, ці можна вешаць у школьных класах выявы распяцця Хрыста (супраць гэтага пратэставалі бацькі-мусульмане), выданне прапанавала кампраміс — нацягнула на галаву распятага Хрыста забароненыя для нашэння ў школах ісламскія хусткі.

Натуральна, гэта выклікала незадаволенасць каталіцкай грамады. Вернікі звярталіся з рознымі судовымі іскамі, але, як правіла, яны не прымаліся да разгляду.

Аднак існуюць і адваротныя прыклады. За гісторыю існавання праекту «Titanic» 35 яго выпускаў былі забароненыя. 55 разоў часопіс судзіўся. Сярод тых, хто ўспрымаў публікацыі ў часопісе як асабістую абразу — прэзідэнт ФРГ Ёханэс Рау, міністр Бёрн Энгхальм, старшыня партыі сацыял-дэмакратаў




Курт Бек, вядомы кансерватыўны палітык Фрыдрых Мерц, кампанія Apple і г.д.

Абсалютным рэкардсменам па колькасці іскаў супраць рэдакцыі «Titanic» з'яўляецца каталіцкая царква. Касцёл судзіўся з «Тытанікам» восем разоў. Цікава, што больш за ўсіх «Тытанік» смяяўся з былога канцлера Гельмута Коля. Ён 50 разоў з'яўляўся на вокладках часопіса, прычым у самых правакацыйных выявах. Аднак пры гэтым Гельмут Коль ніводнага разу не судзіўся з выданнем. Калі ўжо зайшла гаворка пра судовыя іскі супраць сатырычнай прэсы, то лідарства тут належыць славутаму баварскаму кансерватыўнаму палітыку Францу Ёзэфу Штраўсу. У 1960–1970-я гады ён 18 разоў спрабаваў судзіцца з сатырычным часопісам «Pardon», і заўсёды прайграваў працэс.

Менавіта з-за крызісу часопіса «Pardon» у 1979 годзе група яго супрацоўнікаў вырашыла заснаваць новы праект. Яшчэ на старце рэдакцыя шукала шляхі для правакацый і планавала назваць выданне «Sonne Scheisse» (Сонечнае га…но). Аднак пасля зразумела, што шансаў зарэгістравацца з падобнай назвай у яе няшмат. Затое рэдакцыі ўдалося адстаяць права друкаваць матэрыялы адпаведна правілам нямецкага правапісу 1903 года.

За гады існавання «Titanic»ператварыўся ў аднаго з лідараў сатырычнай прэсы ў ФРГ. Цікава, што з накладам 99 тысяч экземпляраў «Titanic» саступае па тыражу толькі часопісу «Eulenspiegel» — так называўся ў ГДР аналаг нашага «Вожыка», які захаваўся пасля падзення Берлінскай сцяны. Штомесячны тыраж «Eulenspiegel» — 110 тысяч экземпляраў.

Канцэптуальна «Titanic» не падобны на цяперашнія постсавецкія сатырычныя выданні, дзе шмат жартаў на бытавыя тэмы. Аўтары «Titanic» любяць шукаць філасофскі сэнс розных фрагментаў жыцця. Аднак гэта не значыць, што ў «Titanic» працуюць нейкія зануды. Адной з фішак выдання з'яўляюцца хуліганскія выхадкі яго аўтараў. У 1999 годзе выданне пажартавала з міністра эканомікі зямлі Бадэн-Вюртэмберг. «Titanic» запусціў чутку, што нейкі мільянер, які паміраe, збіраецца адпісаць чыноўніку ўсе свае зберажэнні, паколькі бачыць у ім адзінага саліднага палітыка. Міністр успрыняў гэта ўсур'ёз і… паспрабаваў перавесці грошы віртуальнага мільянера на свой асабісты рахунак, што выклікала скандал.

У 2000 годзе рэдакцыя праз факс «падкупіла» адна з прадстаўнікоў FIFA, прапануючы яму за хабар прагаласаваць за правядзенне чэмпіянату свету 2006 года ў Германіі. Германія і так перамагла ў кастынгу краін-кандыдатаў, аднак прыкол сатырыкаў моцна падмачыў яе рэпутацыю. Жоўтая газета «Bild» заклікала чытачоў званіць у рэдакцыю «Titanic» і выказваць свой пратэст. Федэрацыя футбола Германіі патрабавала ад рэдакцыі ў якасці маральнай кампенсацыі 600 тысяч еўра. Іск адклікалі пасля таго, як рэдактар часопіса пакляўся больш падобнымі правакацыямі не займацца. Праўда, пасля журналісты сцвярджалі, што быццам менавіта дзякуючы ім Германія прымала турнір.

У 2004 годзе на базе рэдакцыі была заснаваная палітычная партыя, якаючы называецца «ПАРТЫЯ» — абрэвіятура з літар слоў «Партыя за працу, прававую дзяржаву, абарону жывёл, інтарэсаў эліты і базісную дэмакратыю». (Partei fuer Arbeit, Rechtsstaat, Tierschutz, Elitenfoerderung und basisdemokratische Initiative). Партыя сярод іншага выступае за раскол Германіі на Усходнюю і Заходнюю часткі, паміж якімі павінна праходзіць Берлінская сцяна. Цікава, што гэты лозунг карыстаецца падтрымкай 21 працэнта нямецкага электарату.

Партыя рэгулярна прымае ўдзел у парламенцкіх выбарах і, як не дзіўна, у мінулым годзе нават набрала адзін працэнт галасоў на выбарах у берлінскі парламент. Лічба вельмі вялікая з улікам таго, што ПАРТЫЯ практычна не мае структур і абмяжоўвае сваю дзейнасць хепенінгамі.

Аднак цяпер пра хуліганскія палітычныя акцыі давядзецца часова забыць. Рымскі Папа патрабуе ў якасці маральнай кампенсацыі ад «Titanic» 250 тысяч еўра — вялікая нават па нямецкіх мерках сума, якая здольная падарваць фінансавую стабільнасць флагмана нямецкай сатыры. Усе згадваюць, як у 1980-я гады рэдакцыя прайграла падобны працэс згаданаму вышэй міністру Бёрну Энгхальму. Ён адсудзіў у рэдакцыі «Titanic» 40 тысяч нямецкіх марак, што паставіла праект на мяжу існавання.

Таму не дзіўна, што цяпер журналісты шукаюць шляхі прымірэння. Леа Фішар ужо дабіваецца прыватнай сустрэчы з пантыфікам і абяцае, што гэта дапаможа ўрэгуляваць усе канфлікты. Асаблівы націск робіцца ім на тое, што Фішэр і Ёзэф Ратцынгер — землякі. Яны абодва нарадзіліся ў аўстрыйскім гарадку Рэгенсбург.

Застаецца сказаць, што справа Рымскі Папа супраць сатырычнага выдання выклікала вялікі інтарэс у Расіі, дзе спрэчкі вакол скандальнай выхадкі групоўкі «Pissy Riots» перараслі ў дэбаты наконт месца царквы ў сучасным расійскім грамадстве.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ВІКТАР ЮШЧАНКА



Былы прэзідэнт Украіны, якога абвінавачваюць у дыскрэдытацыі ідэй Майдана, імкнецца атрымаць другое дыханне. Дапамагаць яму ў гэтым будуць Украінская народная партыя Юрыя Кастэнкі, Кангрэс украінскіх нацыяналістаў, а таксама звыш 30 грамадскіх арганізацый. Яны правялі форум патрыятычных сіл у Кіеве, дзе ва ўмовах невыноснай спякоты — людзі літаральна abліваліся потам — заключылі пакт. Галоўная місія аб'яднання — вайна з дэўкранізацыяй, якую, па словах Юшчанкі, праводзіць адміністрацыя Віктара Януковіча. Пад гэтым лозунгам картэль, назву якому яшчэ не прыдумалі, і пойдзе на выбары. Між тым, шмат хто лічыць, што праект цалкам праплачаны Партыяй рэгіёнаў для расколу электарату апазіцыі, якая аб'ядналася на базе партыі Юліі Цімашэнка. Сапраўды, не зразумела, нашто на выбары ідуць людзі, якія маюць рэйтынг сацыялагічнай памылкі (1–2%) і імідж палітыкаў, якія прафукалі Майдан. Сам Юшчанка ўпэўнены, што ўкраінцы, якія яшчэ не вызначыліся, за каго яны будуць галасаваць на восеньскіх парламенцкіх выбарах, чакаюць менавіта гэтага новага праекту. Між тым, нават у сваёй партыі «Наша Украіна» Юшчанка са сваімі планамі не мае падтрымкі. «Нашаўкраінцы» раскалоліся па гэтым пытанні. Застаецца сказаць, што Юшчанка — апошні палітык з кагорты ўкраінскіх нацыянал-дэмакратаў, які збіраецца пазмагацца за дэпутацкія мандаты. Усе іншыя партыі гэтага накірунку, уключаючы калісьці моцны «Рух», пераварыліся ў маргіналаў.

### БАШАР АСАД



Прэзідэнт Сірыі, якая з кожным днём паглыбляецца ў грамадзянскую вайну, збіраецца стаць прэзідэнтам іншай краіны. На думку амерыканскага часопіса «Middel East Quarterly», у атачэнні сірыйскага прэзідэнта распрацаваны план стварэння дзяржавы алавітаў, пасаду кіраўніка якой можа заняць Асад. Алавіты — шыіты ў суніцкай Сірыі, да якіх належыць і сям'я Асадаў. Гэта група сірыйскіх грамадзян складае каля 10 працэнтаў насельніцтва і кампактна жыве на паўночным захадзе Сірыі. Менавіта тут у выпадку правалу барацьбы з апазіцыяй Асад мяркуе абвясціць новае дзяржаўнае фармаванне. Быццам, дапамогу ў стварэнні новай краіны яму ўжо абяцала Расія, якая трымае ў гэтым рэгіёне сваю васковую базу.  Таксама дзяржаўніцкую ініцыятыву алавітаў падтрымлівае Ізраіль, які баіцца, што ў выніку падзення рэжыму Асада да ўлады ў Сірыі прыйдуць ісламісты. Права алавітаў на незалежнасць аўтары праекту таксама аргументуюць гістарычнымі прэцэдэнтамі. Пасля першай сусветнай вайны, у 1922 годзе, Францыя, якая мела мандат на кіраванне гэтай тэрыторыяй, дала алавітам шырокую аўтаномію. Толькі ў 1936 годзе гэтая зона была ўключаная ў склад Сірыі.

### НІЛ МУЙЖНІЕКС



Латвійскі палітолаг, камісар Савета Еўропы па правах чалавека з 1 красавіка 2012 года, запатрабаваў у кіраўніцтва Грэцыі праверыць дзейнасць партыі «Хрысі Авгі» («Залаты світанак») на адпаведнасць грэчаскай канстытуцыі. Па словах латыша, гэтая партыя нясе прамую адказнасць за рост ксенафобскіх атак на іншаземцаў і асобаў цыганскага паходжання ў Грэцыі ў апошні час. Фактычна Муйжніекс выступае за забарону партыйнай структуры «Хрысі Авгі», што дастаткова дзіўна з улікам таго, што гэта не проста групоўка скінхедаў, а партыя, якая мае парламенцкае прадстаўніцтва. На чэрвеньскіх выбарах гэтага года за «Хрысі Авгі» прагаласавалі 6,9 працэнта выбаршчыкаў, што прынесла партыі 18 мандатаў. І ўвогуле, чаго яшчэ чакаў еўрапейскі чыноўнік ад «Хрысі Авгі», якая лічыць, што Грэцыя павінна жыць па законах старажытнай Спарты, дзе, як вядома, усіх, хто не адпавядаў нейкім фізічным крытэрыям сапраўднага эліна, папросту забівалі. З іншага боку, сапраўды, не зразумела, як партыя з такой вар'яцкай праграмай можа легальна існаваць у наш час.

▸ СУАЙЧЫННІКІ

# АДЫСЕЯ АРКАДЗЯ НАФРАНОВІЧА

Лявон ЦЕЛЕШ

**У інтэрнэце набіраю па-беларуску «Аркадзь Нафрановіч» — адразу высвечваюцца словы падказкі: біяграфія, вершы, проза, публіцыстыка. Як бачна, імя таленавітага майстра слова, вясковага настаўніка з вёскі Камаі, добра вядома не толькі аматарам паэзіі на яго малой радзіме, на Пастаўшчыне і Мядзельшчыне, але і карыстальнікам у сусветным сеціве.**



У выдавецтве «Кнігазабор» выйшла ў свет кніга «Выбранае», у якую ўвайшло ўсё лепшае, што стварыў Аркадзь Нафрановіч за апошнія 15 гадоў творчай працы. Яна змяшчае такія раздзелы, як паэзія, проза (аповесць «Мая адысея»), публіцыстыка і крытыка, гумар. Трэба адзначыць, што ўсё напісанае створана не прафесійным пісьменнікам, а настаўнікам, які больш за 30 гадоў адпрацаваў у вясковай школе, і жыццёвы шлях якога нагадвае сапраўдную адысею.

Нарадзіўся Аркадзь Нафрановіч 24 красавіка 1936 года на Мядзельшчыне, у вёсцы Юшкавічы, у звычайнай сялянскай сям'і. Бацька паэта, Іосіф Ільіч, быў майстар на ўсе рукі: будаваў хаты, шыў боты. Маці, Стэфаніда Васільеўна (у дзявоцтве Дзеравянка) нарадзілася на Пастаўшчыне, вучылася ў адным класе з беларускім паэтам Уладзімірам Дубоўкам.

Маленства Аркадзя прайшло пад уздзеяннем дзіўнай прыроды Беларускага Паазер'я, напоенага водарам казак і народных песень, легенд і паданняў пра возера Нарач, якое знаходзіцца ў якіхнебудзь 15 кіламетрах ад вёскі. З дзіцячых гадоў яму даводзілася дапамагаць бацькам у цяжкай сялянскай працы. Вайна парушыла мірны лад простага сялянскага жыцця сям'і Нафрановічаў. У 1943 годзе нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску Юхнавічы, і сям'ю гадовы Аркадзь, разам са сваімі бацькамі, братам і сястрой, быў вывезены ў Германію на прымусовыя работы. Дзіцячая памяць Аркадзя шмат чаго зберагла аб змрочных часах знаходжання ў няволі. «Тое, што я спазнаў у Нямеччыне, ніколі не забудзецца», — піша Аркадзь Нафрановіч у сваёй аповесці-ўспамінах «Мая адысея».

У маі 1945 года сям'ю Нафрановічаў вызвалілі амерыканскія саюзнікі, і яны вярнуліся на папялішча роднай вёскі Юхнавічы, да здзічэлых ніў. Пасляваенная разруха, голад… З вялікімі цяжкасцямі, на зарослых мохам камянях падмуркаў былой сядзібы, бацька Аркадзя збудаваў новую хату. Толькі яны, як і іншыя сялянскія сем'і, пачалі вылазіць з галечы, як апынуліся ў наступным ярме — былі прымушаныя ўступіць у калгас, дзе на працадні амаль нічога не атрымлівалі.

Пасля заканчэння школы Аркадзь паступіў вучыцца ў Пастаўскае педагагічнае вучылішча. Давучвацца даводзілася ў Лепелі, куды з цягам часу была пераведзена гэтая навучальная ўстанова. У сваіх успамінах Аркадзь Нафрановіч піша, што яго настаўнікам у Лепельскім педвучылішчы быў Мікола Пятрэнка, аўтар многіх песень, у тым ліку музыкі на верш Веры Вярбы «Ручнікі». Менавіта дзякуючы гэтаму таленавітаму кампазітару і педагогу Аркадзь Нафрановіч, калі пачаў пісаць вершы, тонка адчуваў музыку гукаў сваіх твораў і ўважліва ставіўся не толькі да іх зместу, але і да гучання. Адсюль і запатрабаванасць яго вершаў беларускімі кампазітарамі Леанідам Захлеўным і Міколам Пятрэнкам, які 17 вершаў Аркадзя Нафрановіча паклаў на музыку.

У 1968 годзе Аркадзь скончыў геаграфічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, і ўсё жыццё працаваў настаўнікам — выкладаў геаграфію, гісторыю, музыку, спевы. Прырода надзяліла яго цудоўным музычным слыхам і голасам: усе блізкія і знаёмыя бачылі ў ім асобе будучага спевака.

Аркадзь Нафрановіч належыць да паэтаў-самавукаў. Свой першы верш напісаў, калі вучыўся ў шостым класе, і прысвяціў яго роднай школе. Больш сур'ёзна ставіцца да напісання вершаў пачаў у час працы настаўнікам у Камайскай школе. У 1989 годзе Аркадзь уступіў у літаратурнае аб'яднанне «Світанак» пры раённай газеце «Пастаўскі край».

Вершы паэта пачалі з'яўляцца ў пастаўскай і мядзельскай раённых газетах, а таксама ў альманахах паэзіі «Рунь» пастаўскага літаратурнага аб'яднання. У 1992 годзе быў абвешчаны рэспубліканскі конкурс на напісанне дзяржаўнага гімна Беларусі, у якім прыняў удзел і Аркадзь Нафрановіч. Тэкст яго ўрачыстай песні быў надрукаваны ў «Настаўніцкай газеце». Прымаў удзел Аркадзь Іосіфавіч у конкурсе прыпевак, абвешчаных газетай «Звязда», і стаў фіналістам конкурсу. У «Звяздзе» быў таксама надрукаваны яго вялікі злабадзённы артыкул аб стане беларускай мовы. Вершы паэта друкуюцца ў часопісах «Вожык», «Роднае слова».

У 1995 годзе была выдадзена яго кніга паэзіі «Мядзельскі мерыдыян», а ў 1998 годзе — «Святло Нарачы». 17 песень і рамансаў, якія ўзніклі дзякуючы плённаму супрацоўніцтву паэта і кампазітара Міколы Пятрэнкі, склалі зборнік «Мелодыі роднага краю» (1995 г.). Аркадзь Нафрановіч — аўтар кніг «У пошуках ісціны», «Горад музыкі і сонца», зборніка нарысаў і вершаў «Сейбіты дабра і мудрасці», які ён прысвяціў нялёгкай працы настаўнікаў. Яго аўтабіяграфічная аповесць «Мая адысея» была ўзнагароджана Літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Караткевіча. Узнагароджаны Аркадзь Нафрановіч таксама Памятным знакам «2000 год хрысціянству».

Вялікі ўплыў на Аркадзя Нафрановіча як на творчую асобу аказала яго асабістае знаёмства з народным паэтам Беларусі Максімам Танкам. Упершыню яму пашанцавала сустрэцца са славутым земляком падчас вучобы ў Белдзяржуніверсітэце. Між імі ўзнікла ліставанне. Максім Танк цікавіўся самабытным паэтам, ухваляў і падтрымліваў яго паэтычную дзейнасць. «Што да гімна, дык тэкст ваш не ўступае іншым, якія друкаваліся», — такую адзнаку даў вялікі паэт тэксту дзяржаўнага гімна, напісанага Аркадзем Нафрановічам. Менавіта Максім Танк, а таксама Генадзь Бураўкін, Навум Гальпяровіч і Леанід Дранько-Майсюк далі Аркадзю Нафрановічу рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Апошні ліст Аркадзь Нафрановіч атрымаў ад Максіма Танка 7 красавіка 1995 года, калі той быў зусім хворы і знаходзіўся ў бальніцы. Цёплыя, натхняльныя лісты Аркадзь Нафрановіч атрымліваў і ад народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.

Гартаю старонкі новай кнігі Аркадзя Нафрановіча. Шмат вершаў ён прысвяціў сваім землякам, краявідам. Паэта непакоіць стан роднай беларускай:

*Ці ўсведамляем, ШТО з ёй*
*страцім,*
*ШТО гонім са свайго двара?*
*Бярэ уладу ў нашай хаце*
*Яе «старэйшая» сястра.*

Ад хаўруса з Расіяй Беларусь заўсёды мела больш незлічоных бед, чым здабыткаў, і таму паэт мае рацыю, калі сцвярджае:

*З Расіяй прагнем вечнага*
*альянсу,*
*Намер як бы дастойны пахвалы.*
*А ці ўздыхнём лягчэй —*
*якія шансы?*
*З вялікай хмары часта*
*дождж малы.*

Сябруе Аркадзь Нафрановіч з акравершамі. Адзін з іх паэт прысвяціў сваёй жонцы Лёнгіне, другі — старэйшаму на Беларусі камайскаму касцёлу.

У раздзеле паэзіі пад загалоўкам «Слынныя людзі мінуўшчыны» надрукаваны вершы, якія паэт прысвяціў Сымону Будному, Францыску Скарыну, Кірылу Полацкаму, Ефрасінні Полацкай, Міколу Гусоўскаму, Уладзіміру Дубоўку, Нілу Гілевічу. Прыцягваюць увагу і апавяданні аўтара: «Сустрэча», «Уласны конь», «На допыце». У раздзеле кнігі «Публіцыстыка. Крытыка» Аркадзь Нафрановіч аналізуе творы нашых выдатных пісьменнікаў-сучаснікаў: Ніла Гілевіча, Віктара Казько, Януся Мальца, Алега Салтука, Навума Гальпяровіча, Вячаслава Рагойшы, Мікалая Віняцкага, Міколы Шабовіча. Зусім не выпадкова паэта друкуе сатырычны часопіс «Вожык», добра сябруе Аркадзь Нафрановіч з гумарам:

*Без фігі не дастаць да носа,*
*Якія веліч ды імпэт!*
*А справы ўсёй — паперы насіць*
*Ад кабінета ў кабінет.*

Або такое:

*Ён на паклёп заўсёды порсткі,*
*А што той грэх?*
*Была б штодня за гэта*
*костка —*
*Паёк за брэх.*

Добры настрой і ўсмешка на вуснах з'яўляюцца пры знаёмстве з «Пацешкамі — усмешкамі» і «Карацелькамі», змешчанымі ў канцы кнігі: «Ён падначаленых дзяўбаў/ Без унікнення ў сутнасць спраў» («Дзяцел-дырэктар»).

Знаёмячыся з кнігай Аркадзя Нафрановіча, адчуваеш, што гэты творца блізкі да выдатных пісьменнікаў — паводле любові, болю за родную мову, паводле якасцей слова — чыстага, светлага, святога.

Зараз паэт на адпачынку, жыве са сваёй спадарожніцай жыцця Лёнгінай у вёсцы Камаі. У красавіку яму споўнілася 76 гадоў. Здароўя яму і здзяйснення творчых задум.

ЦІКАВА

# ЭПІЗОД З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАГА ЭТНАМУЗЫКОЛАГА АНТОНА ГРЫНЕВІЧА

Арсень ЛІС

**Падчас працы ў архівах Вільнюса мне трапіўся, лічу, цікавы дакументальны матэрыял — судовая справа, заведзеная Віленскім акруговым судом яшчэ ў той час, калі Віленшчына не была афіцыйна далучана да Польшчы, мела напаўатаномны юрыдычны статус Сярэдняй Літвы.**




Генадзь Грак (1938, Мінск). На карціне: Антон Неканда-Трэпка, Вацлаў Ігнатоўскі, Антон Грыневіч, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Магдалена Радзівіл

З акту абвінавачання Грыневіча вынікае, што ён быў арыштаваны ў цягніку ў Маладзечне агентам польскай контрразведкі. Пры вобшуку ў арыштаванага этнамузыколага была выяўлена ладная сума польскіх, царскіх, керанскіх і савецкіх грошай, некалькі лістоў ад менскіх беларусаў да віленскіх. Сваю паездку арыштаваны патлумачыў клопатам кааператараў. Як бухгалтар кааператыву друкароў, а ён такі быў на той час ім, маўляў, прывозіў вагон солі на станцыю Залессе, а рэалізаваўшы тавар, мусіў зрабіць закупку збажыны для сваёй кааперацыі. Можа, і сышла б тая версія за праўду, каб сышчыкі не знайшлі на дне карабка запалак у Грыневіча палатнянага лоскута, на якім чарнілам была зроблена лічбавая шыфроўка. Гэты факт даў падставу дэфензіве западозрыць кааператара не толькі ў камерцыйных інтарэсах. Пасля трохдзённых допытаў Грыневіч прызнаўся, што хадзіў пяхотай за граніцу. У Менску заставаліся з вясны, калі выехаў у Вільню, каб надрукаваць «Беларускі слоўнік», адзенне і бялізна. Трэба было неяк тое забраць.

Была гэта праўда, але не ўся. Далей следства высветліла, што пры выездзе з Вільні атрымаў грошы і лісты ад кааператара Эдварда Будзькі для Менскай цэнтралі беларускіх кааператываў, ліст ад кааператара Кісялеўскага да камісара земляробства Хатэнкі. Спыняўся ў Язэпа Лёсіка, які перадаў два лісты — адзін да В. Іваноўскага, а другі да М. Гарэцкага. Славінскі ж, з якім Грыневіча пазнаёміў Хатэнка, прасіў перадаць ліст Кісялеўскаму. Адным словам, набіралася некалькі фактаў, але адзін рэчавы доказ вінаватасці арыштаванага пераважваў усе іншыя — шыфроўка, яе загадкавы тэкст.

Капітан дэфензівы Дунін-Вэнсовіч як эксперт даў заключэнне, што Грыневіч не выглядае на прастака, які не ведаў, што перадае. Шэф секцыі дэфензівы 2-га аддзела «dwojki» Генштаба Ферлецкі патрактаваў шыфроўку як дэпешу менскіх камуністаў да віленскіх, а самога Грыневіча — як «бальшавіцкага кур'ера». На падставе сабраных звестак і рэчдокаў пракуратура пры Віленскім акруговым судзе абвінавачвала «грамадзяніна Савецкай Расіі Грыневіча Антона, год 45, сына Антона і Фаўстыны, у тым, што, будучы чужаземцам зімой 1920–1921 гг. на тэрыторыі Віленскай зямлі дапамагаў Савецкай Расіі ў яе варожых дзеяннях супраць Польшчы. Пры гэтым дапамога гэта палягала ў падтрыманні сувязі паміж беларускімі дзеячамі-камуністамі ў Вільні, а таксама дзеячамі Усходняй Беларусі. Злачынства прадугледжана ў арт. 119 і 108 ч. 1 КК і згодна з арт. 208 УПК падлягае разгляду ў акруговым судзе Вільні». Судовы працэс над Грыневічам тым часам упіраўся ў важны, калі не самы істотны, аргумент віны падсуднага: дэфензіва не магла дэшыфраваць тэксту знойдзенай у яго старанна схаванай шыфроўкі... Кісялеўскі ж і Будзька ўцяклі ў Коўна. Пасля працяглага побыту ў турме восенню 1921 года Грыневіч быў звольнены пад сціслы паліцэйскі нагляд, даў распіску, што не пакіне цяперашняга (тагачаснага) месцы жыхарства. Усё гэта фігуруе ў справе 1132, ф. 129-га, воп. 2-га Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы.

Заўважым, што забарона пакідаць межы горада, хоць і такога самавітага, як Вільня, для збіральніка фальклору была пакараннем немалым. У першай палове 20-х гадоў запісы песень, мелодый, зробленыя Грыневічам, былі здзейснены адно ў горадзе. Этнамузыколаг натаваў і апублікаваў у спеўніку фальклорныя творы з вуснаў інтэлігентаў, беларускіх журналістаў, як Янка Пачанка, грамадска-палітычных дзеячаў Б. Тарашкевіча, С. Рака-Міхайлоўскага, мастака Яз. Драздовіча і інш. Што ж да польскіх пінкертонаў з дэфензівы, то ў прафесійным чуцці ім нельга было адмовіць. Шыфроўка, якая аказалася для іх цвёрдым арэшкам, належала, хутчэй за ўсё, А. Славінскаму, які нямала папрацаваў для экспарту рэвалюцыі на Захад.

Увогуле ж лісты, якія перадаў і меў перадаць Антон Грыневіч у Менску і Вільні, праліваюць крыху святла на кантакты беларускай інтэлігенцыі, раздзеленай у пераломныя 1920–1921 гады дзяржмяжой. Ліставанне іх мела не толькі чыста прыватны характар. І таму ж Яз. Лёсіку, і М. Гарэцкаму, і Э. Будзьку моцна карцела аб будучыні сваёй бацькаўшчыны.

Становішча А. Грыневіча, нягледзячы на звальненне з астрогу, заставалася няпэўным. Судовая справа была не закрытая, і ў любы час можна было чакаць позвы ў суд. Адчуваў музыка-фалькларыст, казаў пра тое П. Карузу, на сабе назойлівае вока шпікоў.

Пры першым знаку, што судовая расправа можа ўзнавіцца, у красавіку 1925 года падаўся на ўсход. Дзесяць месяцаў турэмнага мадзення даліся ў знакі, і не хацеў паўтарэння падобнага. Шкада было архіву, сабраных пачынаючы з 1906 года тысяч песень, розных фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў... Рызыкаваць пераходзіць граніцу з такім багажом не рашыўся, дый не паспеў усё сабраць.

Калекцыя фальклорна-музычных матэрыялаў Антона Грыневіча заставалася ў Вільні ў Беларускім музеі. Падчас вайны з ёй працаваў кампазітар Тадэвуш Шалігоўскі. Паводле ўспамінаў народнага артыста Г.І. Цітовіча, кампазітар-віленчанін быў захоплены яе багаццем, шкадаваў, што няма лібрэта, якое б стала асновай для напісання оперы. Мелодыі, што раіліся ў галаве музыкі пад уражаннем народнага меласу, прасіліся пакласці іх на партытуру. Сам жа Шалігоўскі прызнаваўся, што, перажыўшы дзве вайны ў Вільні, гатоў з'ехаць хоць на край свету з гэтага, па яго словах, горада-палігона. Па вайне ён такі выехаў у Польшчу.

Што ж да архіва фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Антона Грыневіча, то яны, на шчасце, захаваліся. Выданне іх сёння магло б стаць помнікам руплівому і самаахвярнаму беларускаму этнамузыколагу, жыццё якога трагічна абарвалася 8 снежня 1937 года ў Салаўках.

ЮБІЛЕЙ

# САБОРУ ПЯТРА І ПАЎЛА — 400 ГАДОЎ

Аляксей ХАДЫКА

**12 ліпеня, у дзень св. апосталаў Пятра і Паўла, найстарэйшы праваслаўны храм Мінска, названы ў гонар гэтых апосталаў, адсвяткаваў сваё 400-годдзе. Прайшла ўрачыстая літургія, праведзеная Патрыяршым экзархам усёй Беларусі мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам.**



Віленскі кашталян і барысаўскі староста Януш Радзівіл (1579–1620), пратэстант

У прысутнасці шматлікага кліру і духавенства на чале з настаяцелем храма пратаіерэем Георгіем Латушкам, гасцей і дыпламатычнага корпуса асвяцілі памятныя дошкі — у гонар фундатараў храма і апосталаў Пятра і Паўла.

Гісторыя храма, захаванага ў старой частцы Мінска сярод пастаўленых вакол навабудоўляў і хмарачосаў, — шчаслівы выпадак выратавання святыні, якая доўгія гады за савецкім часам служыла архівам, і асаблівы гонар праваслаўнай грамады сталіцы сёння.

Фундацыю на пляц «да возера ракі Свіслачы прылеглы» дала з дазволу караля Жыгімонта III 23 лістапада 1611 года княгіня Аўдоцця Рыгораўна Друцкая-Горская (удава каралеўскага маршалка Багдана Статкевіча). Да яе далучыліся іншыя ахвярадаўцы, не толькі праваслаўныя: традыцыя талерантнасці дапамагала праваслаўнай грамадзе ў пераважна каталіцкім і ўніяцкім горадзе пачатку XVII стагоддзя захаваць ідэнтычнасць. Мецэнатамі манастыра былі пратэстанты Януш Радзівіл, Марцін Валадковіч і Ян Агінскі; у 1635 годзе Мікалай Рыгоравіч Дзеравед ахвяраваў храму маёмасць, у 1620 годзе каталічка княжна Ганна Тышкевіч — грошы. У 1624-м кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла выдаў грамату з дабраславеннем на адкрыццё пры храме жаночага манастыра. Будаўніцтва сабора пачалося ў 1612-м і цягнулася некалькі гадоў, пазней пры ім узніклі брацтва, шпіталь, школа.

Падпарадкаваны віленскаму Свята-Духаваму манастыру, ён знаходзіўся ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха, захоўваючы беларускую праваслаўную традыцыю. Менавіта таму храм узведзены ў нацыянальнай архітэктурнай традыцыі з рысамі ранняга барока: 6-слуповы інтэр'ер, вежы абапал фасаду — як у царквах абарончага тыпу. Сённа нацыянальныя традыцыі падтрымлівае ўтворанае намаганнямі айца Георгія Латушкі пры храме ў час яго адраджэння ў 1990-я гады брацтва Віленскіх пакутнікаў. Тут выдаецца царкоўная літаратура па-беларуску, а па суботах адбываюцца беларускія набажэнствы.



Фота аўтара

Да юбілею сабора фактычна завершана раскрыццё і рэстаўрацыя роспісаў сабора — фрэсак 1793–1795 гадоў і алейнага жывапісу другой паловы XIX стагоддзя і пачатку XX-га. Ад першапачатковага начыння храма на сёння не захавалася амаль нічога. Храм занепадаў у XVIII стагоддзі, цярпеў ад кватаравання французскага лазарэту ў 1812 годзе, савецкай атэістычнай барацьбы ў 1930-я. Пасля апошняй вайны яго інтэр'еры былі падзелены на 4 паверхі і перагароджаны. Працы па акуратным дэмантажы перакрыццяў, з захаваннем роспісаў, запатрабавалі вялікіх намаганняў аднолькавага прыходу. Сучасны прыгожы іканастас у псеўдавізантыйскім стылі — вынік аднаўлення 1990-х гадах.

Сёння жыццё храма ўвасабляецца ў дзейнасці брацкага і маладзевага хораў, спартова-гістарычнага клуба св. Даўмонта Пскоўскага, брацтваў. Сведчаннем адзінства прыходу — на нядзельных набажэнствах у саборы св. Пятра і Паўла спяваюць усе вернікі ў храме.

Самы старажытны з захаваных праваслаўных храмаў сталіцы працягвае адраджацца і як царква, і як адметны помнік культуры.

КІНО




# ЛЮДЗІ І ПАВУКІ

Андрэй РАСІНСКІ

**У сусветным кінапракаце з'явілася стужка «Новы Чалавек-павук». 50 гадоў таму комікс пра юнака з ліпкімі далонямі ўвёў новы стандарт героя-падлетка. Сёлетняя стужка працягвае культурніцкія мутацыі.**

Сірату Пітэра Паркера, якога гадуюць дзядзька і цётка, пакусаў павук. Хлопец пачаў выкідаць павуціну, гайдацца на хмарачосах, прыдбаў чырвонасіні касцюм і пераўтварыўся ў ворага гарадской злачыннасці. Пра надзвычайныя здольнасці марыць і аднарукі доктар Конар, які пераўтвараецца ў аграмаднага зялёнага паўзуна з мярзотнымі звычкамі і кепскім характарам. Чалавек-павук Пітэр Паркер ратуе горад ад Звераяшчара.

Карціна Марка Уэба — павучыны атракцыён-драма, дзе на першы план выходзяць эмоцыі падлетка. Не столькі бойкі — хаця яны ёсць, не столькі палёты па горадзе — хаця і іх дастаткова, не столькі касцюмныя караскання — іх таксама ўдосталь, але пакуты падлетка, які сталее і не ведае, што з гэтаю сталасцю рабіць. Пры гэтым акцёр Эндру Гарфілд часцей на экране без маскі, чым у фірмовым павучыным касцюмчыку. А калі гэты касцюм апрануты — маска почасту зрываецца.

Паказальна, што стужка з'явілася, калі не паспеў яшчэ сцішыцца розгалас ад папярэдняй экранізацыі: трылогіі Сэма Рэймі пра Чалавека-павука (першая фільм з'явіўся ў 2002 годзе, апошні — у 2007). Такая ўпартасць, падмацаваная някепскімі касавымі зборамі, сведчыць, што вобраз юнака-мутанта значна большы за штукарскую вынаходку з кампутарнымі эфектамі.

Людзі, здольныя пераўтварацца ў звяроў ці, прынамсі, мець іхнія якасці — сталыя персанажы чароўных казак. Царэвіч, які становіцца шчупаком ці птушкай, царэўна-жаба, асілкі, народжаныя ў незвычайных абставінах, — водгулле забытага татэмізму, калі людзі лічылі жывёл продкамі і апраналі іхнія маскі. Маскі чалавека-кажана і нават Зора гэтую традыцыю працягваюць, але павучыная маска — гэта нешта іншае для гарадскіх джунгляў.

Па-першае, павук, у якога пераўтвараецца герой, — гэта істота, непрыемная нават у жывёльным царстве. Калі Стэн Лі і Стыў Дзітко ў 1962 годзе выпусцілі першыя коміксавыя прыгоды Чалавека-павука, гэта выклікала насцярожанасць у выдаўцоў, якія не верылі, што нехта купіцца на «Павука».

Але іншы чыннік павучыных прыгодаў важнейшы. Герой не проста сірата, але цалкам самадастатковы падлетак, які цешыцца нованабытай сілай. Героі казак — з татэмным радаводам — былі дакладна ўлучаныя ў грамадства, хаця і мелі экстравагантныя здольнасці. У ранніх гарадскіх коміксах падлеткі толькі дапамагалі дарослым ці мелі настаўнікаў.

Чалавек-павук усё заблытаў. Ён сам па сабе. Ён сам сябе стварае, змяняе, сам вучыцца лётаць, караскацца і караць ворагаў. Трыумф індывідуалізму — і павучыная маска на галаве. Усе повязі з традыцыяй перарваныя: любыя мутацыі на ваш густ. Духоўныя сваякі Чалавека-павука — Людзі Х — цвеляць аслабелых дарослых, а японскі «Акіра» — падлеткавы постапакаліпсіс, які быў бы немагчымы без павучынай затраўкі.

У павучыных прыгодах на першы план найчасцей выходзіць трук. Мультыплікацыйны серыял 1967 года, японскі серыял 1978 года з робатамі і машынамі, папулярная серыйная анімацыя 1994 года, і асабліва фільмы Сэма Рэймі, не забывалі пра гэтыя трукі.

Фільм Марка Уэба (ці не ўзялі яго ў праект толькі дзеля прозвішча) — падказвае, якія сацыяльныя і псіхалагічныя чыннікі спрыяюць павучыным мутацыям. Радасна хуліганіць Чалавек-павук, закідвае ліпкую сетку Эндру Гарфілд.

«Ды ён проста анархіст!» — крычыць адзін з персанажаў, дый абураецца падлеткавай інфантыльнасці. Але чаго абурацца? Сецевы анархізм з навюткімі гаджэтамі — апошняя стадыя імперыялізму.

ЛЕКТОРЫЙ

# БЕЛАРУСЬ БЫЛА КЛАСІЧНАЙ КАЛОНІЯЙ РАСІІ

Марат ГАРАВЫ

**З 1772 па 1917 гады Беларусь была класічнай калоніяй у складзе Расіі, заявіў 17 ліпеня ў Мінску на чарговым пасяджэнні лекторыя «Гісторыя Беларусі з найстаражытнейшых часоў да нашых дзён» прафесар Анатоль Тарас.**



На пачатку сваёй лекцыі на тэму "Знаходжанне Беларусі ў складзе Расійскай каланіяльнай імперыі", навукоўца адзначыў: Беларусь, як і ўсе нацыянальныя ўскраіны Расіі, была калоніяй, пра што сведчаць наступныя абставіны. Па-першае, Беларусь была захоплена Расіяй у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Па-другое, Беларусь стала залежнай тэрыторыяй без самастойнай палітычнай і эканамічнай улады (мясцовая ўлада была зліквідаваная, а замест былых выбарных пасад цар прызначаў каланіяльную ваенную, грамадзянскую і гарадскую адміністрацыю — губернатараў і гараднічых). Патрэцяе, беларускія землі цары налева і направа раздавалі рускім дваранам.

Таксама трэба мець на ўвазе, што жыхары Беларусі генетычна, антрапалагічна і гістарычна адрозніваліся ад рускіх; на Беларусі паўсюль існавала засілле рускіх чыноўнікаў, настаўнікаў і святароў, была ўведзена рыса аселасці для яўрэяў, чыніліся ўсякія перашкоды пратэстантам і каталікам.

Ад каланіяльнага статуса Беларусі вельмі страцілі ўсе слаі насельніцтва краіны, у тым ліку шляхта, святары, мяшчане і сялянства. Так, расійскія гісторыкі старанна затушоўваюць той факт, што ў Еўропе былі ўсяго дзве краіны — Расія і Прусія, дзе існавала рабства сялян, і яны не былі асабіста свабоднымі. Больш нідзе ў Еўропе сялян не прадавалі, не дарылі, не мянялі. Акрамя таго, у Вялікім Княстве Літоўскім сяляне не ведалі такога страшнага зла, як рэкрутчына, калі маладога мужчыну ва ўзросце 19–35 гадоў забіралі ў армію спачатку пажыццёва, потым на 25 гадоў, і толькі з сярэдзіны XIX стагоддзя — на 15 гадоў. У ВКЛ і Рэчы Паспалітай армія была наёмная і добраахвотная.

Паколькі пад гнётам Расіі ўсе слаі насельніцтва нічога не прыдбалі, а толькі згубілі, на Беларусі ўвесь час існавалі прычыны для нацыянальна-вызвольнага руху. Яго спецыфіка ў тым, што доўгі час, амаль 70 гадоў, пачынаючы з паўстання 1794 года і заканчваючы паўстаннем 1863 года, гэты рух насіў польскі характар. Справа ў тым, што на чале руху стаяла польская шляхта рознага этнічнага паходжання, якая спавядала каталіцызм, размаўляла па-польску і дабівалася ўзнаўлення незалежнасці Рэчы Паспалітай, што па Канстытуцыі 1791 года была абвешчана ўнітарнай дзяржавай без аўтаноміі ВКЛ, падкрэсліў Тарас.

Такім чынам, паводле слоў Тараса, калі б Расія не захапіла Беларусь, яе насельніцтва ў бліжэйшыя 100–150 гадоў непазбежна было б паланізавана. «Захоп Расіі меў для ВКЛ супярэчны характар. З аднаго боку, ВКЛ знікла, перарвалася традыцыя дзяржаўнасці, вельмі затармазілася пераўтварэнне этнічнай супольнасці (народа) у супольнасць палітычную (нацыю). Але, з другога боку, замест паланізацыі на Беларусь прыйшла моцная русіфікацыя. Разам з тым, барацьба з мяцежным польскім духам і яго вынішчэнне, якую ўвесь час вёў царызм, а таксама правядзенне буржуазных рэформ пасля адмены прыгонніцтва далі нечаканы і непажаданы для ўладаў вынік — узнікненне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху», — сказаў навукоўца.

Трэба адзначыць, што ў лекторыі ўдзельнічалі больш за 60 чалавек, у асноўным моладзь. Гэтае пасяджэнне лекторыя было дзясятым. У праграме яшчэ тры пасяджэнні.

## ВЫРАТУЕМ ЦАРКВУ Ў СЫНКАВІЧАХ!

**Алесь Пушкін збірае брыгаду для рэстаўрацыйных работ па расчыстцы ад алейнай афарбоўкі Сынкавіцкай царквы — помніку архітэктуры XV стагоддзя.**



Патрэбныя хлопцы, якія з павагай ставяцца да гістарычных і культурных каштоўнасцяў.

Аплата — 80 тысяч рублёў за 1 квадратны метр. Разлік — штовечар. Аб'ём працы — 10–15 дзён. Жыллё прадастаўляецца.

З сабой трэба мець: скальпель, шавецкі нож альбо невялікі шпатэль.

Даведкі па тэлефоне: +375 29 606 82 06 (Алесь Пушкін).

Усе дакументы на дазвол рэстаўрацыі атрыманыя.

**25 ліпеня**
ў межах кампаніі
«Будзьма»
адбудзецца
**сустрэча**
**з Генадзем Бураўкіным**
**«Да Дня незалежнасці»**
Сустрэча праводзіцца
на сядзібе ТБМ
па вул. Румянцава, 13.
Пачатак — 17.30 гадзін.
Уваход вольны

**30 ліпеня**
ў межах кампаніі
«Будзьма»
адбудзецца
**творчая сустрэча**
**з Алегам Хаменкам**
**«Дзяжурны па краіне»**
Сустрэча праводзіцца
на сядзібе ТБМ
па вул. Румянцава, 13.
Пачатак — 17.30 гадзін.
Уваход вольны

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 695

Падпісана да друку 20.07.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.